



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

22 снежня 2017 года №51 (1182)


# З КАЛЯДАМІ!

## Аварыя ў Маладзечне

## Пасажырка загінула, кіроўца памёр у бальніцы

старонка 4

## У школе №14 навагодні спектакль хацелі зрабіць платным

старонка 18

## Трэнер расказаў, як стварыў каманду з інвалідаў па зроку і слыху

старонка 22

# Маці траіх дзяцей: няўжо ў новым годзе застанёмся без даху над галавой?

Ірына Борыс з вёскі Пекары змагаецца, каб у яе сям'і быў свой дом.

старонкі 2

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.


www.hors-motors.by
МЕЧТАЕТЕ О НОВОЙ ТЕХНИКЕ?
ТОРГОВАЯ СЕТЬ HORS MOTORS
дисконт
У нас вы сможете купить:
Скутеры • мопеды • велосипеды • квадроциклы • мотокультиваторы • мотокосы • бензогенераторы • сварочное оборудование • мотопомпы • двигатели для мотоблоков и МТЗ • тачки строительные
ГАРАНТИЯ • ЗАПЧАСТИ КРЕДИТ
НАЛИЧНЫЙ И БЕЗНАЛИЧНЫЙ РАСЧЁТ
Ремонт любой сложности (033) 660-72-55
Молодечно, ул. Я.Дроздовича, 1-99 (бывший магазин «1000 мелочей»)
Частное предприятие "ХОРС-МОТОРС" УНП 190849085

С 1 ПО 31 ДЕКАБРЯ!
Золотая мечта ювелирная сеть
ЦАРСКОЕ ЗОЛОТО ювелирная сеть
КУПИ И ВЫИГРАЙ!
KIA SPORTAGE
ОДИН ИЗ ТРЕХ ВНЕДОРОЖНИКОВ!
Подробности акции и условия – у продавцов-консультантов и на сайте Свидетельство №3152 о государственной регистрации рекламной игры от 20 ноября 2017 года, выдано Министерством антимонопольного регулирования и торговли Республики Беларусь.
РАССРОЧКА И КРЕДИТ, (без справки о доходах) оформление на месте.
Магазины в Молодечно
"Золотая мечта", ул. Притыцкого 25 (возле Универмага), (80176)77-00-55
"Золотая мечта", по ул.Волынца 7 (возле Берёзки), (80176) 77-79-23;
"Царское Золото", Притыцкого, 12 (возле пиццерии «Пингвин»), (80176) 77-41-97
GOLD-DREAM.BY CARSKOE.BY
ООО "Бигпрайм", УНП 691511104

АЛМИ С ЛЮБОВЬЮ К ПОКУПАТЕЛЯМ!
Сеть магазинов «АЛМИ» приглашает на работу:
Г. МОЛОДЕЧНО, УЛ. Ф. СКОРИНЫ, 28, ТЕЛ. (8-029) 198-50-06
• Продавца
• Контролера-кассира
УЛ. В. ГОСТИНЕЦ, 136, ТЕЛ. (8-029) 667-88-69
• Контролёра-кассира
ОТДЕЛ ПЕРСОНАЛА: (8-017) 308-16-02, (8-029) 755-97-22, (8-029) 198-13-80
ЗАО «ЮНИФУД» УНП 800016624

# Маю права

**Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзеленыя розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да аднаго ў духу брацтва.**

Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека.

# Маці траіх дзяцей: няўжо ў новым годзе застанёмся без даху над галавой?

МАЛАДЗЕЧНА

**Адзінокая шматдзетная мама з вёскі Пекары Маладзечанскага раёна Ірына Борыс звярнулася ў рэдакцыю па дапамогу ў жыллёвым пытанні.**

Жанчына атрымала дом як адзінокая шматдзетная маці па лініі паляпшэння жыллёвых умоў у 2008 годзе. Яна была ў дэкрэтным адпачынку, але яшчэ і выходзіла на працу ў ААТ "Гарадзілава". Працавала так, што яе пасылалі на прафесійныя конкурсы рознага ўзроўню, атрымоўвала дыпломы і ўзнагароды.

## Выканкам дазволіў даць субсідыю

Першы ліст аб патрабаванні выселіцца Ірына Борыс атрымала ў 2016 годзе. Спачатку жанчыне прапанавалі выкупіць дом, пры гэтым яна павінна была аформіць дакументы на нерухомасць, якія чамусьці былі згубленыя.

Ірына звярнулася да старшыні райвыканкама **Аляксандра Яхнаўца**. Патлумачыла, што сама не можа сабраць гэтыя дакументы і што дом ужо пачынае прыходзіць у непрыгоднасць. На пасяджэнні ў выканкаме жанчыне прапанавалі выкупіць дом, суму на які маглі агучыць пасля ацэнкі БТІ. Пасля з выканкама Ірына атрымала ліст, што ёй дазволена выкупіць дом і што яна таксама мае права на бязвыплатную субсідыю на рамонт і рэканструкцыю да 300 базавых велічынь (на сёння да 6 900 рублёў). Справа зацягнулася да цяперашняга часу.

– Я ўвесь час хадзіла, прасіла, каб мне зрабілі дакументы, – кажа Борыс. – На гэта мне адказвалі, што сродкаў няма ці што ў гаспадарцы шмат іншых клопатаў. Хаця выканкам загадаў у кароткі тэрмін дакументы аформіць і нават зрабіць рамонт дома. Я ўжо нават пагадзілася рабіць усё за свае грошы, толькі б дакументы зрабілі і далі спакойна жыць.

Паводле ліста райвыканкама за красавік 2016 года, дом належыць ААТ "Гарадзілава" і адносіцца да жылога фонду юрыдычных асоб недзяржаўнай формы ўласнасці. Уласнік павінны забяспечваць захоўванне сваіх дамоў і іх належнае ўтрыманне. І што адказ ААТ "Гарадзілава" ад рамонту неправамоцны. Выканкам рэкамендуе гаспадарцы паскорыцца з рамонтам.

## Дом аварыйны, і жыць у ім небяспечна

Пасля ў гаспадарцы змяніўся кіраўнік. Новы дырэктар **Дзмітры Грамовіч** напісаў у ліпені Ірыне ліст, у якім прасіць цягам месяца выселіцца з памяшкання, якое знаходзіцца ў аварыйным стане.

**У паведамленні ўказана, што прамаруджванне з рамонтам можа выклікаць пагрозу здароўю і жыццю тым, хто жыве ў доме.**



Ірына просіць ці дом, ці сацыяльнае жыллё.



Перад домам Борысаў дзеці паставілі снегавічкоў.



Дом знаходзіцца ў аварыйным стане.

У Ірыны трое дзяцей – 10-гадовы **Лёша**, 12-гадовая **Аня** і 14-гадовы **Ілля**. Усе вучацца ў гарадзілаўскай школе. Пакуль сям'я жыве ў свекрыві.

Акт абследавання дома, які прызнаны аварыйным, накіравалі ў пракуратуру, якая перанакіравала яго ў адрас органаў апекі. Ірыну выклікалі на пасяджэнне. Там жанчыне патлумачылі, што яна мае два выйсці. Адно з іх – вярнуцца працаваць у ААТ "Гарадзілава", і ёй рамантуюць дом. Жанчына дала даведку, якая пацвярджае, што не можа працаваць на ранейшай пасадзе, адпрацаваўшы 11 з паловай гадоў.

У Гарадзілаве жанчына не знайшла працу па стане здароўя:

– Калі б тут было ўсё добра, я не ездзіла б за 30 кіламетраў у Маладзечна на працу.

Жанчына ўладкавалася санітаркай у бальніцу ў райцэнтры. Ездзіць на машыне, а пакуль не мела правоў, хадзіла сем кіламетраў на цягнік і дабіралася лідскім цягнікам.

Жанчына прыгадвае, што на пачатку працы яе ўпэўнівалі, што, адпрацаваўшы 10 год у гаспадарцы, дом яна атрымае без праблем з 20% скідкай на пакупку. Аднак такое абяцанне аказалася толькі на словах.

У шэрагу будынкаў, дзе стаіць і жыллё Ірыны, на некалькіх дамах ёсць след ад тынкоўкі, якая ўжо адвалілася. Дом Борысаў крайні, і на ім тынкоўка адвалілася найбольш. Падчас леташняга ўрагану ў некаторых дамах часткова знесла дах, у тым ліку нашых герояў. Дае ўсадку, бо пастаўлены на гліне.

Хаця сітуацыя з домам была няпэўная, сям'я зрабіла ўнутраны рамонт у двух пакоях, пачалі ў кухні. Але з-за сырасці крыху адсталі шпалеры. Цяпер патрэбны толькі знешні рамонт.

– Я ўжо не супраць зрабіць рамонт за свае грошы. А калі б выканкам выдаў субсідыю, было б выдатна. Неяк бы справіліся паціху. Буду рада і калі сацыяльнае жыллё дадуць у горадзе, бо цяпер там працую.

Дырэктар ААТ "Гарадзілава" **Дзмітры Грамовіч** каментуе сітуацыю:

– Калі гаспадарка была дзяржаўнай і яна там працавала, жанчына мела магчымасць выкупіць дом. Яна гэтага не зрабіла. Цяпер у мяне не працуе, гэты дом не яе і знаходзіцца ў аварыйным стане. Я ім прапанаваў перасяліцца ў іншае месца на час рамонту дома. Прапаноўваў пачынаць рамонт летам, зацягнулі. А цяпер – раптам нешта абрынецца, у сям'і ж трое дзяцей. Ірына можа ісці працаваць у гаспадарку, тады дапамагу. Калі яна атрымае субсідыю і зробіць рамонт, мы прымем і такі варыянт. Але на дом нават дакументы не афармленыя, мы гэтым цяпер узмоцнена займаемся.

Дырэктар гарадзілаўскай школы **Аляксандр Ліс** паведаміў, што прэтэнзій да Ірыны як да маці і да яе дзяцей ён не мае. Дзеці ўпарадкаваныя, але пытанне з жыллём сям'я павінна вырашыць.

Зоя ХРУЦКАЯ.
Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

# “Хажоваагра-2009”: як павысіць ураджай

МАЛАДЗЕЧНА

**Выйсці на прыстойную рэнтабельнасць – задача, з якой новае кіраўніцтва гаспадаркі справілася за тры гады.**


Дырэктар ПСУП “Хажоваагра-2009” Уладзімір Паўлавіч Гнілазуб на раённых “Дажынках” у 2017 годзе.

Якім чынам атрымалася дасягнуць такіх вынікаў, расказалі работнікі прадпрыемства.

Ад кастрычніка 2014 года прыватнае сельскагаспадарчае унітарнае прадпрыемства ўзначальвае **Уладзімір Паўлавіч Гнілазуб**. Ён упэўнены, што ўсё вырашаюць кадры. Кіраванне гаспадаркай пачаў з таго, што засяліў спецыялістаў у жыллё, якое пуставала. Вядучых спецыялістаў не мяняў, але адбылася “перазагрузка” – выйшлі на новыя тэхналогіі, новы падыход да вытворчасці прадукцыі, жывёла- і раслінаводства.

Гэта дало плён – два гады “Хажоваагра-2009” займае першае месца па ўраджайнасці цукровых буракоў у вобласці. Сёлета і летась атрымалі самую высокую ўраджайнасць рапсу ў раёне і вобласці.

– Па рапсе сёлета мы займаем адну з вядучых пазіцый у краіне, – гаворыць галоўны эканаміст **Лідзія Аноп**. – Рапс – наша золата. Яшчэ на палях, а ўжо за ім чарга пакупнікоў. Рэнтабельнасць па гэтай культуры маем пад 60%.

Гаспадарка дала другое жыццё жывёлагадоўчым памяшканням, што пуставалі. У адным з іх цяпер гадуюць цялят у індывідуальных дамках да двух месяцаў на неразведзеным малацэ і стартавым камбікорме, каб не дапусціць інфекцыю. Жывёліна вырастае здаровай, пазней дае шмат малака добрай якасці. У 2017 годзе прадпрыемства выйшла на рэнтабельную вытворчасць.

Гаспадарка змагла набыць сельгаспрылады, каб у раслінаводстве тэхналагічны рэжым вытрымліваўся бездакорна. Гэта дапамагае адпавядаць тэхналагічным тэрмінам пасеву. У сельскай гаспадарцы, упэўненыя тут, галоўнае, пасляваць у тэрмін. У Хажове пасляваюць, таму і зарабляюць.

Дырэктар прызнаецца, што першы год яму і камандзе было няпроста, аднак хутка змаглі стабілізавацца, на другі год сталі на ногі, а цяпер спакойна глядзяць наперад. Поспех у лічбах

Сёлета атрымалі збожжа 5 864 тоны пасля дапрацоўкі, што на 2 195 тон больш за ўзровень 2016 года, – аналізуе Уладзімір Паўлавіч. – Збіралі у 2014 годзе 578 тон рапсу, а ў гэтым годзе – 1 тысячу тон. Мелі каля 6 тысяч тон буракоў, сёлета 10 тысяч тон. Мінулы год быў па бураках рэкордным, атрымалі на 12 тысяч тон.

Сярэдні заробак па прадпрыемстве дасягнуў сёлета 552,3 рубля, тэмп росту да ўзроўню мінулага года – 115,2%. Па выніках работы за 11 месяцаў прадпрыемства мае прыбытак ад усёй дзейнасці і ад рэалізаванай прадукцыі.

За 10 месяцаў прыбытак ад усёй дзейнасці склаў 394 тысячы рублёў, прыбытак ад рэалізацыі прадуктаў, тавараў і паслуг – 85 тысяч рублёў. Рэнтабельнасць ад усёй дзейнасці – 7,2%. Тэмп росту валавой прадукцыі ў супастаўных цэнах склаў 117,2% за тры гады, за 11 месяцаў 2017 года – 103,5%.

У арганізацыі з мяса-малочнай накіраванасцю асноўная крыніца выручкі – ад продажу малака. Дойны статак – 1 271 галава, ад якога валавы надой склаў 5 913 тон, што на 104,2% вышэй за ўзровень мінулага года. Удой на 1 карову за 11 месяцаў бягучага года склаў 4 652 кг, што на 187 кг больш за аналагічны перыяд 2016 года. Каб разумець атрыманы вынік працы калектыву, трэба ўспомніць 2014 год, калі ўдой на 1 карову за год склаў 3 622 кг. Рост прадукцыйнасці дойнага статка прыкладна ў 1,5 раза – гэта сумленная праца ўсіх жывёлаводаў і службаў гаспадаркі. Для гэтага былі таксама нарыхтаваныя кармы. У 2015 годзе гаспадарка, якая раней сама закупляла кармы, пачала прадаваць іх раёну.

Асноўнай задачай тут ставяць нарошчванне аб'ёмаў прадукцыі. Гэта дазволіць выйсці ў пасяўную годна, захаваць калектыў і павысіць заробкі. Але трэба адзначыць, што не ўсё так проста ў жыцці гаспадаркі. Ёсць цяжкасці, якія вырашаюцца ў рабочым парадку.

### Работнікі шчыруюць ад душы

Супрацоўнікі адзначаюць: вельмі важна, які тон задае кіраўнік. Уладзімір Паўлавіч стварае атмасферу паважлівых і культурных ўзаемаадносінаў. Работнікі разумеюць, што пасадай неабходна даражыць, і стараюцца зарабляць не толькі аклад, але і прэміі.

Трактарыст **Пётр Гайковіч** выдае пасевы еўрапейскага ўзроўню. **Сяргей Давідовіч** выдатна працуе на кормаўборачным камбайне. **Сяргей Троцкі** мае лепшае ворыва.

Брыгадзіры **Наташа Жукоўская**, **Сяргей Маслоўскі** і **Святлана Луновіч** – сярод лепшых. Добрай працай вылучаюцца даяркі **Людміла Казьменка**, **Лена Ганчарова**, **Таня Шафаловіч**, **Наташа Анташкевіч**.

### Лічбавая даведка

- Плошча сельгасугоддзяў – 4 856 гектараў.
- Плошча ворыва – 2 996 гектараў.
- Колькасць буйной рагатай жывёлы – 3 376 галоў, у тым ліку дойнага статка 1 271.
- 5 малочнатаварных фермаў +1 па адкорме цялят.
- Колькасць працаўнікоў – 232 чалавекі.

УНП 690 693 791

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.12 | 21.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0378 | **2,0133** |
| Еўра | 2,3937 | **2,3815** |
| Злоты, 10 | 5,6784 | **5,6755** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,4463 | **3,4285** |
| Грыўня, 100 | 7,4754 | **7,2317** |
| Курсы ў “Банку БелВЭБ” | 13.12 | 20.12 |
| Еўра | 2.3850/2.3990 | **2.3740/2.3890** |
| Долар ЗША | 2.0270/2.0430 | **2.0110/2.0250** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 13.12 | 20.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,95 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,90 | **6,98** |
| Свініна (вырезка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **4,80** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,55** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,39** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,55 | **1,55** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 4,29 | **3,45** |
| Перац, 1 кг | 4,99 | **5,49** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,99 | **3,85** |
| Бананы, 1 кг | 1,70 | **1,80** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,85** |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | **3,40** |
| Грушы, 1 кг | 2,99 | **2,99** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Ківі, 1 кг | 3,70 | **3,70** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,39 | **3,49** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,70** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,75 | **1,89** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Мёд, 0,5 л | - | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Хай у Новым годзе Жоўтага Сабакі вам касмічна шанцуе на добрыя навіны ад “Рэгіянальнай газеты”



### Падпісацца можна:

✓ праз сайт “Белпошты”.

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем “афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі”, выбіраем “Алфавітны”. Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару “Р”, справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – “Рэгіянальная газета”.

✓ на пошце,

✓ праз паштальёна

✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек, на тры месяцы – 10 рублёў 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў, на 3 месяцы – 30 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

МОЛОДЕЧНЕНСКИЙ ФИЛИАЛ УНИТАРНОГО ПРЕДПРИЯТИЯ «МИНСКОЕ ОТДЕЛЕНИЕ БЕЛОРУССКОЙ ТОРГОВО-ПРОМЫШЛЕННОЙ ПАЛАТЫ»

ПЕРЕВОДЫ личных и учредительных документов,

✓ английский
✓ немецкий ✓ испанский
✓ польский ✓ греческий
✓ французский
✓ итальянский
✓ литовский

научно-технической, экономической, юридической, коммерческой документации и литературы, формационно-рекламных и справочных материалов и пр.

в том числе и для нотариального заверения

г. Молодечно, ул. Буховщина 60/1, пом. 54, 1 этаж
Тел.: (8-0176) 55-46-64, 55-46-65, 55-46-67
e-mail: tppm-mo@tppm.by, http://www.tppm.by
УНП 100144204

## 18-гадовы пасажыр загінуў на месцы аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

18 снежня каля 17:30 на 63-м кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна-Нарач, каля Мясаты, адбылася аварыя з удзелам чатырох машын.

Як распавёў **Юры Багушэвіч**, старшы следчы РАСК Маладзечна, у выніку здарэння пасажыр "Аўдзі", 18-гадовы малады чалавек, загінуў на месцы.

Следчыя просяць сведак здарэння звярнуцца ў РАСК на адрас: Маладзечна, вул. Прытыцкага, 23, кабінет 110, або па тэлефоне 8 (0176) 580784 да следчага **Рамана Арцем'ева**.

## 3-за рэўнасці мужчына парэзаў колы ў машыне суседа

**ВІЛЕЙКА**

14 снежня ў міліцыю звярнуўся 82-гадовы жыхар Вязыні і паведаміў, што ноччу невядомы парэзаў два колы ў яго машыне.

Падчас праверкі стала вядома, што колы парэзаў 52-гадовы сусед. Так ён выказаў крыўду на тое, што яго 35-гадовая сужыцтніца пайшла жыць ад яго да 82-гадовага суседа.

Мужчына заплаціць штраф у памеры да 15 базавых велічынь, распавяла намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

## Абараняючы сына, жанчына парэзала мужа

**МАЛАДЗЕЧНА**

Сямейныя пасядзелкі 15 снежня каля 11 гадзін у вёсцы Маркава на Маладзечаншчыне скончыліся трагічна.

Паміж мужам жанчыны і яе сынам усчалася сварка.

Жанчына вырашыла абараніць сына. Два разы пырнула нажом у спіну 53-гадовага мужа.

Мужчыну з двума раненнямі з пранікненнем у плеўральную поласць забралі ў бальніцу. Яго жонку затрымалі.

Пра гэта распавёў старшы следчы РАСК **Юры Багушэвіч.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечне згарэлі вянкі на брацкай магіле па вуліцы Драздовіча

**МАЛАДЗЕЧНА**

Фотаздымкі спаленых вянкоў раніцай з'явіліся ў сацыяльнай сетцы ў групе Наше Молодечно – vMolo.by.

У дзяжурную часць РАУС інфармацыя аб здарэнні не паступала.

Згарэлі яны ад запаленай свечкі ці была іншая прычына, пакуль невядома.

Брацкая магіла знаходзіцца па вуліцы Драздовіча за тэатрам лялек "Батлейка".

**Наталля ТУР.**

## Як могуць пакараць за незаконны продаж піратэхнікі

На тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскага АУСТ ад 1 снежня да 8 студзеня праводзіцца прафілактычнае мерапрыемства па папярэджанні незаконнага продажу і выкарыстання піратэхнікі.

Праз неасцярожнае абыходжанне з піратэхнікай павялічваецца колькасць траўматызму, пашкоджанняў і знішчэння маёмасці. За пашкоджанні з-за выкарыстання піратэхнікі ў грамадскіх месцах прадугледжаная адказнасць.

За наўмыснае пашкоджанне ці знішчэнне маёмасці – штраф да 50 базавых велічынь – 1 150 рублёў. За дробнае хуліганства – ад 2 да 30 базавых, гэта значыць, ад 46 да 690 рублёў. За парушэнне патрабаванняў закона ў галіне перавозкі небяспечных грузаў, рэчываў і прадметаў – ад 0,5 да 5 базавых, што складзе ад 11,5 да 115 рублёў.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ,**
**інспектар групы прапаганды Маладзечанскага АУСТ.**

# Аварыя на Грамадоўскай

## Пасажырка загінула, кіроўца памёр у бальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Здарэнне адбылося ў панядзелак, 18 снежня, у 7 гадзін 12 хвілін раніцы.**


Фота забяспечана Сяргеем БАРТОШАМ.

На месцы здарэння.

60-гадовы вадзіцель аўтамабіля "Фольксваген-Пасат" рухаўся па вуліцы Грамадоўскай у бок Буйніцкага.

На нязначным закругленні дарогі ён няправільна выбраў хуткасць і не справіўся з кіраваннем.

У выніку гэтага машына ўрэзалася ў асвятляльную мачту.

– Пасажырка машыны, 56-гадовая жанчына, загінула на месцы здарэння, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" інспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**. – Мужчына дастаўлены ў рэанімацыю.

Як паведамілі "Рэгіянальнай газеце" ў Маладзечанскім РАСК, праз некалькі гадзін кіроўца памёр.

Па папярэдніх дадзеных, ні кіроўца, ні пасажырка не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі. На машыне стаялі зімовыя шыны.

**Наталля ТУР.**

## У лесе хаваўся больш за месяц: жыхара Мядзельшчыны абвінавачваюць у замаху на забойства

**МЯДЗЕЛ**

**Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да 47-гадовага жыхара Мядзельскага раёна, які абвінавачваецца ў замаху на забойства двух чалавек.**

10 ліпеня следча-аператыўная група прыехала ў вёску Коркі Мядзельскага раёна з прычыны нанясення нажавых раненняў дзвюм жанчынам. Устанавілі, што напярэдадні адна з іх прыехала са сваёй сяброўкай у госці да маці, з якой таксама жыў яе брат. На глебе непрыязных адносін паміж сваякамі адбыўся канфлікт.

У выніку нецвярозы мужчына ў двары дома спачатку нанёс нажавое раненне сястры, а затым яшчэ некалькі ўдараў яе сяброўцы ў твар і шыю. Аднак пацярпелыя аказалі яму супраціўленне і паведамілі ў міліцыю. Жанчынам своечасова аказалі медыцынскую дапамогу. Пасля здзяйснення злачынства фігурант уцёк у лес, дзе хаваўся больш за месяц.

Мужчыну затрымалі супрацоўнікі міліцыі каля аднаго з закінутых хутароў. З яго слоў, днём ён хаваўся ў лясах і балотах, харчаваўся пераважна раслінлай ежай, начаваў у закінутых будынках.

Цяпер комплекс следчых дзеянняў з удзелам абвінавачанага, пацярпелых і сведак завяршылі. Правялі праверкі паказанняў на месцы і допыты, атрымалі вынікі экспертыз, у тым ліку псіхолага-псіхіятрычнай. Паводле яе мужчына разумеў сутнасць учынкаў і мог кіраваць сабой.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікаваныя як замах на забойства дзвюх асоб. Да яго ўжытая мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту.

Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Таццяна БЕЛАНОГ,**
**афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці.**

## З маладзечанцаў вымагалі грошы за асабістыя фота і неіснуючыя білеты на канцэрт

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Тры крымінальныя справы супраць махляроў у інтэрнэце завялі ў Маладзечанскім РАСК за мінулы тыдзень.**

Хлопец з дзяўчынай, навучэнцы аднаго з маладзечанскіх каледжаў, хацелі трапіць на канцэрт папулярнага гурта ў Мінск, але білеты набыць не паспелі.

З просьбай пра "лішні білецік" звярнуліся на прасторы інтэрнэта. Знайшоўся чалавек, які напісаў, што мае два білеты і гатовы іх прадаць за 60 рублёў.

**Маладыя людзі пералічылі грошы на ўказаную картку, аднак білетаў не дачакаліся.**

А старонку з сацыяльных сетак махляр адразу ж выдаліў.

Другой пацярпелай магла стаць 19-гадовая маладзечанка, але яна аказалася больш пільнай. Невядомы напісаў дзяўчыне, што мае яе здымкі асабістага характару, якія могуць скампраметаваць дзяўчыну. За неапублікаванне папрасіў пералічыць дзве тысячы расійскіх рублёў. Дзяўчына цягнула час, перапісваючыся з махляром. Грошы не перасылала, а сама звярнулася ў міліцыю. Пасля стала вядома, што інгэтыя здымкі дзяўчына дасылала знаёмаму, а ўтаго ўзламалі старонку і скралі фоткі.

І трэці выпадак адбыўся з 70-гадовай пенсіянеркай з Маладзечна.

На сацсетках жанчыне прапанавалі зарабіць, але для гэтага трэба было паклацці значную суму грошай на картку. Жанчына адаслала грошы і больш ніякіх звестак ад невядомага не атрымала. Пасля міліцыя даведалася, што пералічаныя грошы знялі ў Расіі.

**Юры Багушэвіч**, старшы следчы Маладзечанскага РАСК, адзначыў, што раскрыць такія злачынствы вельмі цяжка. Большасць інтэрнэт-махляроў, якія падманваюць гараджан, знаходзяцца ў Расіі. Таму грамадзянам самім варта быць пільнымі, не дасылаць грошы незнаёмым, асабліва да таго часу, пакуль не атрымаюць тавар.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ЖИДКИЕ ОБОИ
SILK PLASTER
(8-029) 609 57 00
(8-0176) 77 12 42
ИП Ковалевич П.В.
УНП 691887793

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ (Г.МИНСКА) ОТДЕЛ
Департамента охраны МВД Республики Беларусь
приглашает на службу на должности:
▪ МИЛИЦИОНЕРА
▪ МИЛИЦИОНЕРА-ВОДИТЕЛЯ
Требования: возраст до 28 лет, образование не ниже среднего, приоритет отдается лицам, прошедшим срочную службу в ВС или имеющим высшее образование, годным к строевой службе
Предлагаем: стабильную зарплату, полный соц.пакет, общежитие или компенсация за найм жилья
З/п от 800 руб.
Тел. 8 (017) 327-38-08, 8 (044) 734 25 34
8 (029) 701 42 65, 8 (029) 703 95 58
УНП 100060804

Пожарный аварийно-спасательный отряд
приглашает на работу:
▪ СПАСАТЕЛЯ-пожарного
▪ ВОДИТЕЛЯ категории С
Условия приёма на работу:
возраст старше 18 лет, годность по состоянию здоровья.
Предлагается посменная работа, бесплатное обучение.
Обращаться:
Молодечно, ул. Я.Купалы,126-а
(8-0176) 73-29-00
73-91-86
(8-029) 640-21-41
ПАСО учреждения «Минское областное управление МЧС» УНП 100092090




# Маладзечанскія электрасеткі: “Мы проста даражым кадрамі”

**Людзей тут любяць. Гэта заўважна з уваходу на тэрыторыю маладзечанскіх электрасетак. Машыны, што ўязджаюць сюды, міргаюць мінакам фарамі, работнікі вітаюцца здалёк узмахам рукі, а людзі ў кабінетах усміхаюцца.**

Больш за тое, яны ўсміхаюцца не проста так, а таму што любяць сваю работу. Інакш, як патлумачыць тое, што многія прыходзяць на працу задоўга да пачатку працоўнага дня, а пасля працы не бягуць дадому, а ідуць у басейн, трэнажорную залу, спартыўныя секцыі або гурткі мастацкай самадзейнасці, якія працуюць тут жа, на прадпрыемстве.

Маладзечанскія электрасеткі выгадавалі цэлыя дынастыі, першыя прадстаўнікі якіх прыйшлі на працу яшчэ ў 50-х гадах, калі электрасеткі толькі пачалі сваю гісторыю.

## Пачатак

А пачалося ўсё ў 1949 годзе, калі ў Маладзечне стварылі цэх электрычных сетак Маладзечанскай гарадской электрастанцыі. А калі ў 1954 годзе пачалася інтэнсіўная электрыфікацыя рэгіёна, у Маладзечне стварылі абласное энергетычнае ўпраўленне, ці, як яго тады называлі, аблэнерга. Маладзечанскаму аблэнерга падпарадкоўваліся 16 раёнаў.

Тады, у далёкіх 50-х гадах, на балансе прадпрыемства знаходзілася 126 кіламетраў высакавольтных ліній. А ў штаце працавалі 72 чалавекі.

А ў 60-х гадах, пасля скасавання Маладзечанскай вобласці, электрасеткі сталі падпарадкоўвацца Мінску.

Пачалася інтэнсіўная электрыфікацыя: будаўніцтва падстанцый і паветраных ліній, размеркавальных сетак. Важным этапам у развіцці прадпрыемства было асваенне абсталявання напругай 330 кВ і будаўніцтва паветраных ліній і падстанцыі 330 кВ “Маладзечна”, якія і сёння з’яўляюцца адным з вузлавых цэнтраў перадачы і размеркавання электрычнай энергіі.

За апошнія гады было прыкладзена нямала сіл па рэканструкцыі і пашырэнні дзеючых электрасеткавых аб’ектаў і вытворчых баз, павышэнні надзейнасці і эканамічнасці энергазабеспячэння, паляпшэнні ўмоў бяспечнай працы, што з’яўляецца несумненнай заслугай усяго працоўнага калектыву.

Сёння ў складзе філіяла 46 структурных падраздзяленняў, якія забяспечваюць электрычнасцю 245 тысяч чалавек на тэрыторыях чатырох раёнаў: Маладзечанскага, Валожынскага, Вілейскага і Мядзельскага.

На балансе МЭСа, акрамя тысячы кіламетраў ліній электраперадач і дзясяткаў кіламетраў цеплавых сетак, знаходзяцца міні-ЦЭС і кацельня ў Маладзечне, Вілейская міні-ЦЭС, Лебедзеўская міні-ЦЭС з біягазавай устаноўкай, якія забяспечваюць цеплавой энергіяй вытворчыя аб’екты і бытавы сектар у Маладзечне і Вілейцы.

А ў 2016 годзе ў межах будаўніцтва Беларускай АЭС упершыню ў Беларусі быў пабудаваны новы ўчастак даўжынёй 20,5 кіламетра на павышаных нетыповых металічных апорах вышынёй 62 метры. Гэта дазволіла матнаваць правады над лесам, не наносячы шкоды прыродзе.

## Галоўны інжынер: “ МЭС – мой другі дом”

У сем гадзін раніцы ў кабінеце галоўнага інжынера маладзечанскіх электрасетак **Паўла Гарудка** загараецца святло.

І хаця да пачатку працоўнага дня яшчэ цэлая гадзіна, але Павел Сяргеевіч ужо на працы: збірае нарады з начальнікамі структурных падраздзяленняў, якія забяспечваюць асноўную вытворчую дзейнасць філіяла, правярае гатоўнасць падраздзяленняў да бяспечнага выканання работ, дае неабходныя дазволы на працоўны дзень, які толькі пачынаецца, сочыць за тым, каб ахова працы ажыццяўлялася на патрэбным узроўні.

– Ахова працы, – кажа Павел Сяргеевіч, – гэта самае галоўнае. Мы абнавілі ахоўнае адзенне, зрабілі відэанагляд перад тым, як дапусціць чалавека да працы, рэгулярна сочым за станам здароўя нашых работнікаў.

У сучасных умовах бяспечна і якасна выконваць работы па эксплуатацыі і рамонце абсталявання і сетак могуць толькі высокакваліфікаваныя работнікі. Менавіта такія працуюць на Маладзечанскіх электрасетках.

– Мы сёння вялікую ўвагу надаём стварэнню ўмоў па аўтаматызацыі размеркавальных сетак 10-0,4 кВ з выкарыстаннем сучасных тэхналогій, якія дазваляюць дыягнаставаць стан аддаленага абсталявання, вырабляць дыстанцыйнае пераключэнне абсталявання, якое перастала працаваць з цэнтральнага дыспетчарскага пункта філіяла, што дазваляе істотна скарачаць час пошуку і ліквідацыі пашкоджанняў.

Павел Гарудка працуе галоўным інжынерам толькі два гады, але на прадпрыемстве ўжо 16 год.

– Пасля заканчэння БНТУ прыйшоў сюды па размеркаванні і ні разу не было думкі, каб памяняць работу. Работу сваю люблю, можа, таму і прыходжу сюды раней за патрэбны час і сыходжу далёка не ў пяць гадзін вечара.

Акрамя асноўнай дзейнасці, Павел Сяргеевіч – капітан валейбольнай каманды МЭСа.

Спартыўнае жыццё калектыву – гэта асобная тэма. На прадпрыемстве створаныя валейбольная, баскетбольная каманды. МЭС прадстаўляюць у рэспубліканскіх спаборніцтвах більярдысты, плыўцы, тэнісісты.

З медалёў і кубкаў, якія выйгравалі спартсмены-энергетыкі, можна рабіць асобны музей. Бо месца на стэндах не хапае для захавання ўсіх здабыткаў і дасягненняў.

Але і не гэта самае галоўнае.

А што ж тады? Канешне, людзі.

Павел Гарудка прызнаўся, што пра здароўе людзей у самым прамым сэнсе клапоціцца дырэктар прадпрыемства **Сяргей Сарычаў**. Асаблівай заслугай з’яўляецца стварэнне фізкультурна-аздараўленчага комплексу з басейнам і трэнажорнай залай, дзе ў вольны ад працы час персанал займаецца спортам, праводзяцца розныя



Павел Гарудка, галоўны інжынер МЭС.




аздараўленчыя мерапрыемствы і спаборніцтвы. Спартыўны комплекс даступны кожнаму ахвотнаму за невялікую плату.

Калі гаварыць пра калектыў электрасетак у лічбах, то атрымоўваецца, што на прадпрыемстве працуюць 1158 мужчын і 203 жанчыны. Сярэдні ўзрост работнікаў – 40 гадоў. 64 чалавекі адпрацавалі на прадпрыемстве больш за 30 гадоў. Моладзі да 31 года тут працуе 159 чалавек.

Але за ўсімі гэтымі лічбамі стаяць людзі, якія ведаюць і любяць сваю працу, якія прыходзяць на работу з задавальненнем. Бо ведаюць, што кадрамі тут даражаць. А што яшчэ трэба для працоўнага шчасця?

## Прыміце віншаванні

Маладзечанскія электрасеткі віншуюць усіх тых, хто адзначае сваё прафесійнае свята.

Дзень энергетыка – гэта свята для тых, хто прысвяціў сваё жыццё цяжкай, але вельмі важнай для краіны справе – забеспячэнню людзей электраэнергіяй і цяплом.

У гэты святочны дзень многія сустрэнуць свае прафесійнае свята на працоўным месцы. Бо працоўная вахта энергетыкаў праходзіць ва ўмовах зімовага максімуму нагрузак. Надзейнае і бесперабойнае энергазабеспячэнне кожнага дома і кожнага прадпрыемства рэспублікі – вось што заўсёды было і застаецца галоўным у працы энергетычнай галіны.

Аб важнасці прафесіі энергетыка можа казаць кожны. Але ці кожны ведае, што за бесперабойнай падачай цяпла і святла ў дамы, офісныя будынкі, сацыяльныя ўстановы, асвятленнем вуліц і многім іншым стаіць праца тысяч людзей па ўсёй краіне – энергетыкаў, сапраўдных прафесіяналаў сваёй справы?

Сёння хочацца падзякаваць усім, хто мае дачыненне да гэтай прафесіі, падзякаваць за адданасць энергетыцы, за карпатлівую працу, за тыя намаганні, якія работнікі гэтай сферы прыкладаюць для якаснага выканання свайго доўгу! Здароўя вам, шчасця, поспехаў у працы, мірнага неба над галавой. Дабрабыту і дабра Вам і Вашым блізкім!

**З надыходзячым Новым годам і Калядамі!**

УНП 100071593




## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Ніне Уладзіміраўне і Аляксандру Барысавічу МАНЦЭВІЧАМ з Вілейкі**

*Бабулю з дзядулем віншуем з унукам.*
*З першынцам – маму і тату!*
*Няхай заўжды ў вашых хатах*
*Шчасця будзе багата.*

Няхай ваш хлопчык падорыць вам радасць, усмешкай асвятляе прастору вакол. Няхай ён будзе здаровы, паспяховы, прыгожы.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Опель-Астра Ф, 1,6 мона, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Пежо-205, 605 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- Сітраэн-Ксантыя ў выдатным стане, торг, 5000 рублёў. Т. (8-025) 9298699.*
- ФВ-Пасат, 2002 г.в., 1,9Д, чорны,11000 рублёў. Т. (8-029) 6649778.
- Хундай-Лантра, 1993 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Шыны зімовыя R-15, летнія R-14, шыны з камерай R-13, дыскі – Масквіча, адзін – Міцубісі. Т. (8-029) 5771112.

### КУПЛЮ

- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто ў любым стане. Дорага. **ПА ПРЫВАБНАЙ ДЛЯ ВАС ЦАНЕ**. Т. (8-029) 7087762.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля 2016, 2 паверх, цэгла. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*
- 2-пакаёвая кватэра на 3 паверсе ў Вілейцы. Т. МТС (8-033) 3209337, (8-033) 3209338.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх, падвал, паркоўка. Т. Вэлком 324-65-69.*
- 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі, 40 000 руб. Т. Вэлком (8-029) 1679230.
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Кастрычніцкай, 42. Магчымы абмен на 1-пакаёвую кватэру + даплата. Т. (8-033) 6452435.
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 2/5, побач гімназія №10, парк, магазіны,ёсць зручная паркоўка. 98 000 рублёў. Т. (8-029) 8726237.*
- 4-пакаёвая кватэра, 81,1 кв. м у Смаргоні альбо абмяняю на 2-пакаёвую кватэру ў Смаргоні. Т. (8-033) 6023097.
- Гараж і гаражныя боксы. Т. Вэлком (8-029) 3958593, МТС (8-029) 7748664.*
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы ўцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Гараж у ГК-3 12 г. Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 6385144.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Дом у Вілейцы, усе камунікацыі. Т. (8-033) 3209338.*

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін у Вілейцы. Т. (8-033) 6368637.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н Зеніт, з заключэннем дагавора. Т. (8-029) 6550799.*
- У арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*


**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- Замена ГРМ, сцепления
- Восстановление суппортов
- Осмотр, ремонт ходовой
- Развал-схождение
- Ремонт глушителя, турбин
- Шиномонтаж, аргон

(80176) 58-10-30, (029) 876-51-17, (029) 335-48-04, (029) 64-61-463
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

Размясці сваю аб'яву не менш за **ТРЫ РАЗЫ**, і яе прачытаюць у інтэрнэце на сайце Rh.by

Вечерний Бобруйск
Вашы аб'явы па продажу ТРАНСПАРТУ прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

**Аккумуляторы BOSCH**
а также широкий выбор аккумуляторов других популярных брендов.
(8-0176) **58-12-48**, (8-029) **63-63-166**
www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243
**Принимаем старые АКБ**
СТАРЫЙ НА НОВЫЙ

**БУДЬ ГОТОВ К ЗИМЕ!**
**АНТИФРИЗЫ готовые и концентраты, ТОСОЛ оптом и в розницу ДЁШЕВО!**
(8-0176) **58-12-48**
(8-029) **63-63-166**
www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243

**АККУМУЛЯТОРЫ**
ДЛЯ АВТОМОБИЛЕЙ
ИСТОЧНИКОВ ПИТАНИЯ
СИГНАЛИЗАЦИЙ
ПРОДАЁМ НОВЫЕ И ПОКУПАЕМ СТАРЫЕ
ШИРОКИЙ ВЫБОР
- моторных, гидравлических, индустриальных масел,
- смазки, реагент AdBlue разливной,
- антифризы, техжидкости,
- запчасти к иномаркам






ПРОВЕРКА АККУМУЛЯТОРОВ С ВЫДАЧЕЙ СПРАВКИ И ПРОТОКОЛА ИСПЫТАНИЙ
ТЕЛ. (0176) 58-12-48 (029) 63-63-166 www.batrix.by
ООО "Батрикс"УНП 691893243












Торты, якія робіць Кацярына Пашкоўская, шкада і есці, настолькі яны прыгожыя і ўнікальныя. Фота забяспечаныя Кацярынай ПАШКОЎСКАЙ.

# Маладзечанка стварае шэдэўры, якія можна з'есці

МАЛАДЗЕЧНА

**Аднойчы падгледзеўшы ў інтэрнэце, якую прыгажосць людзі робяць з цеста, маладзечанка Кацярына Пашкоўская вырашыла: а што, калі паспрабаваць паўтарыць? Рукі ж, здаецца, з патрэбнага месца растуць.**

Першай "ахвярай" новага хобі Кацярыны стаў яе брат.

– Свой першы торт спякла на 35-годдзе брата. Торт быў у выглядзе жаночых грудзей. Брату спадабалася. Тады на кухні я стала праводзіць часу ўсё больш і больш.

Торты, кажа Кацярына, бываюць розныя. На некаторыя траціцца дзень. А на некаторыя даводзіцца выдаткоўваць дні чатыры. Залежыць ад цяжкасці ўпрыгожванняў.

Мышкі і мішкі, прынцэсы і жывёлы, ровары, камп'ютары, кнігі, машыны – усім можна ўпрыгожыць торт.

Кацiны сябры, калі ўбачылі ў інтэрнэце фотаздымкі яе салодкіх шэдэўраў, сталі прасіць зрабіць торт на замову.

– Маю першую замову ад староннягa чалавека запомніла. Патэлефанаваў мужчына. Папрасіў зрабіць торт у выглядзе лялькі Барбі. Я так старалася. Рабіла рушы з ружовага крэму. А той мужчына за тортам так і не прыехаў.

Цяпер Кацярына марыць пра ўласную кандытарскую, каб рабіць не толькі шэдэўры на святы, але і прыемныя дэсерцікі на кожны дзень.

– Для мяне гэта пакуль хобі, – кажа Каця, – вялікіх грошай на тортах не заробіш. Бывае, што за некалькі месяцаў ні адной замовы, але я вельмі мару аб тым дні, калі мае торты зможа пакаштаваць кожны маладзечанец.

Наталля ТУР.

## У вілейскім музеі спалучылі ўсходні тэатр ценяў і беларускую батлейку

ВІЛЕЙКА

**21 снежня краязнаўчы музей запрасіў гледачоў на прэзентацыю праекта "Ценевая батлейка".**

– Мы ўжо даўно шукалі новыя формы працы з наведнікамі, – кажа дырэктар музея **Надзея Аўдзей**. – А паколькі Новы год – гэта казачнае свята, а цені – гэта іншы, загадкавы свет, мы вырашылі запусціць праект у перадсвяточныя дні.

Па словах Надзеі, ценевая батлейка існавала ў Беларусі ў канцы 19 стагоддзя на Віцебшчыне, але не была распаўсюджанай. Больш ведалі традыцыйную батлейку з рэлігійнымі п'есамі пра цара Ірада.

Хутчэй за ўсё, ідэю ценевага тэатра на Беларусь прывезлі нашы продкі, якія ў пазамінулым стагоддзі падарожнічалі па Японіі і Кітаі. А потым аб'ядналі ўбачанае з ужо вядомай у нас батлейкай.

У лялечным тэатры прасцей паказаць настрой, лічыць дырэктар музея. Гэта можна зрабіць і праз выраз твару лялькі, і праз яе адзенне. Тэатр ценяў такой магчымасці не дае. Ёсць толькі цень як абалонка, абрыс. А астатняе глядач дадумвае сам.

– Напэўна, многія з нас у дзяцінстве забаўляліся з ценямі. Я дакладна так рабіла, – прыгадвае Надзея. – Кладучыся спаць у промнях заходзячага сонца рукамі на сцяне паказвала фігуры пры дапамозе рук.

У вілейскай ценевай батлейцы лялькі будуць з паперы. А ўвогуле, для тэатра ценяў можна выкарыстоўваць выцінанку, уласныя рукі. У Еўропе пашыраны вулічны тэатр ценяў, калі чалавек за шырмай з дапамогай свайго цела паказвае нейкія фігуры.

У рэпертуары вілейскай ценевай батлейкі пакуль адна казка – "Як мужык мядзведзя адужаў". Але сам праект разлічаны надоўга. Яго тэрміны будуць залежаць ад таго, наколькі спадабаюцца гледачам "ценевыя казкі".

Аксана ЯРАШОНАК.

# "Батрикс" рекомендует: побалуй машину маслом EUROL – и она станет еще ближе к идеалу

**Любой автолюбитель трепетно относится к своей "малышке". И прекрасно понимает, что чем лучший уход ей обеспечит, тем дольше она будет радовать хозяина.**




Линейка продукции Eurol: порадуйте свой автомобиль истинным качеством. Фото zuma.com.gt.

Одно из важных условий заботливого ухода – выбор качественных масел и смазочных материалов. Надежность линии продуктов компании Eurol подтверждается тем, что именно ее предпочитают профессиональные гонщики. Эту компанию выбирают и те, кто хочет продлить удовольствие пользования автомобилем как можно дольше.

Компания мирового масштаба базируется в Нидерландах, где является единственным независимым производителем смазочных материалов.

## Как удается получить высочайшее качество

Чтобы достичь таких впечатляющих результатов, голландская компания использует передовые технологии в направлении смазочных материалов. Для того, чтобы держать высочайшую планку качества, организация обеспечивает собственную лабораторию, в которой ученые постоянно создают новые составы, разрабатывают все лучшие формулы и внедряют новейший опыт области.

На все новинки и тенденции лаборатория реагирует сразу же, и потребитель получает самое современное предложение. Кроме того, частью работы лаборатории являются программы контроля качества всех продуктов.

**Как шутят дистрибьюторы голландской компании, лучшее в мире моторное масло не смог создать еще никто, но именно Eurol ближе всех к совершенству.**

Далее разработанные составы создают на ультрасовременных заводах. Процесс смешивания настолько высокотехнологичен, что дозирование компонентов и материалов производится тончайшим образом. Смешивающие устройства оборудованы самокалибрующимися расходомерами, сделаны из нержавеющей стали с полированной поверхностью.

Благодаря такой точности продукт имеет прекрасную консистенцию, а новые технологии присадок и лучшие базовые масла дают такое качество, которое вас приятно удивит. Компания гарантирует долговременный эффект и надежное использование.

Вы получите удлиненные интервалы между заменами масла, потребление топлива уменьшится, как и токсичность выхлопных газов.

## Вы не захотите расставаться с этим брендом

Эксплуатационные свойства продукции компании настолько приятны, что автолюбители, однажды попробовав этот бренд, остаются ему верным. Признание качества подтверждается тем, что компанию представляют в 75 странах мира, в том числе и в Беларуси. В Молодечно побаловать машину европейским качественным маслом можно благодаря компании "Батрикс".

Eurol не ограничивается одним продуктом, это комплексный поставщик. Они предлагают масла и смазки, антифриз, аэрозоли, охлаждающие и тормозные жидкости, средства для металлообработки, защиты от коррозии и все, что необходимо для мойки.

Голландская компания в первую очередь ориентируется на высочайшее качество продукции. С 1995 года смазочные вещества Eurol сертифицируются на соответствие стандарту ISO 9001. Это международный стандарт системы управления качеством предприятия, который указывает, что предприятие придерживается всех требований и способно гарантированно поставлять продукцию и услуги согласно договора.

Ультракачественные и современные смазочные материалы Eurol, а также другую необходимую для автомобиля продукцию можно купить в компании "Батрикс"

**ООО "Батрикс",**
**г. Молодечно, ул. Городокская, д. 104.**
**Тел. (0176) 58-12-48,**
**Velcom (029) 636-31-66,**
**МТС (033)323-02-17.**
**www.batrix.by**

УНП 691893243




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

"Дзясятачка" прыехала ў Хажова. Старшакласнікі Хажоўскай школы. Другая злева – Надзея Рухля.

## Дасылайце бланкі для ўдзелу ў "Дзясятачцы" і запрашайце ў госці "Рэгіянальную газету"

**На гэтым тыдні расказаць пра акцыю мы завіталі ў школу ў Хажове. 11-класніца Надзея Рухля – адна з удзельніц нашай акцыі.**

Мы ўручылі дзяўчыне невялікія падарункі і запрасілі яе аднакласнікаў і вучняў іншых класаў далучыцца да акцыі.

Запрашаем да ўдзелу і вучняў з іншых школ рэгіёна.

Наперадзе – навагодня святы і зімовыя канікулы. А гэта час, каб адпачыць і набрацца сіл для добрых адзнак у наступнай чвэрці. А яна, нагадваем, заўсёды самая доўгая.

Таму магчымасцяў атрымаць дзявяткі і дзясяткі будзе яшчэ больш. Карыстайцеся імі. А мы будзем рады атрымаць вашы бланкі з добрымі адзнакамі і ўручыць вам падарункі.

Атрымлівайце 9 і 10 па любых прадметах, запаўняйце бланкі з газеты, дасылайце ў рэдакцыю.

Раскажыце пра конкурс у сваіх класах. Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа!

**Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.**

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі рэгіёна, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/18289/.

Аддзел інфармацыі.

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№51)

1. Імя, прозвішча____________________________

2. Дата нараджэння __________________________

3. Клас
Школа__________________________________

4. Населены пункт___________________________

5. Тэлефон, па якім можна
звязацца з удзельнікам ці бацькамі

6. Прадмет, за які
атрыманая адзнака __________________________

7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ______________________

9. Імя, імя па бацьку ________________________

10. Прозвішча настаўніка _____________________

11. Тэлефон, па якім
можна звязацца з настаўнікам________________

12. Подпіс настаўніка__________________________


Фота new-year-party.ru

Платныя спектаклі школы маюць права паказваць толькі па-за межамі ўстаноў адукацыі. Фота ілюстрацыйнае.

# У школе №14 навагодні спектакль хацелі зрабіць платным

МАЛАДЗЕЧНА

**Праўда, каштаваць квіток мусіў рубель дваццаць капеек, але многіх бацькоў абурыў сам факт.**

Пракаментаваць сітуацыю мы папрасілі дырэктара сярэдняй школы №14 **Каліну Капуцкую**:

– Нічога страшнага і жудаснага я ў гэтым не бачу, – кажа дырэктар, – многія навагоднія мерапрыемствы ў школах платныя даўно. Кожная школа мае права аказваць платныя адукацыйныя паслугі. Паказ канцэрта – гэта таксама выхаваўчая праца калектыву нашых педагогаў. Таму і ўстанавілі сімвалічны кошт – 1 рубель 20 капеек.

Каліна Віктараўна кажа, што адпаведны прэйскурант на паслугі школа атрымала ў аддзеле адукацыі Маладзечанскага райвыканкама.

– Грошы мы не збіраем, як мне давялося пачуць, а ўсё афіцыйна прабіваем праз касу. У цэнтры дзіцячай творчасці "Маладзік" уваход на ранішнікі каштуе 5 рублёў, у Лядовым палацы – 25. Пра іх цэны бацькі ж не ўзрушаюцца?

**– А куды пойдуць гэтыя грошы?**

– На пашыў касцюмаў, на тое, каб напоўніць мех нашага Дзеда Мароза цукеркамі, сувенірамі, якія атрымаюць дзеці падчас ранішнікаў. На салодкі стол для ўдзельнікаў канцэрта.

Ільготы ж для шматдзетных сем'яў і сем'яў, у якіх выхоўваюцца дзеці-інваліды, будуць, кажа дырэктар.

**– Ініцыятыва з платнымі ранішнікамі цалкам належыць 14-й школе?**

– Не, я мяркую, што так будуць рабіць і іншыя школы.

Пасля гэтай публікацыі на нашым сайце rh.by, у рэдакцыю патэлефанавала Каліна Капуцкая з просьбай удакладніць гэту інфармацыю з сайта.

Яна патлумачыла, што яе няправільна зразумелі. І ранішнікі ў школе бясплатныя, а платны ўваход мусіў быць на спектакль "Злыднін Новы год", які намаганнямі дзяцей і настаўнікаў павінны былі паказаць падчас навагодніх канікулаў.

– Ён дадатковы, і прыйсці на яго дзеці і бацькі маглі па жаданні. Да ранішнікаў ён ніякага дачынення не мае.

Аднак уваход і на гэта мерапрыемства зрабілі бясплатным.

– У нашай школе працуе бізнес-кампанія, у межах яе мы і планавалі паказ спектакля, на які прадаюцца квіткі. Пазней дзецям за выступленне належыць зарплата. Пры гэтым цана на квіток, кажа дырэктар, вызначаецца прэйскурантам цэн, пралічаных аддзелам адукацыі.

Мы патэлефанавалі ў эканамічны аддзел адукацыі з просьбай патлумачыць, як жа працуюць бізнес-кампаніі:

– Кіраўнік установы адукацыі звяртаецца да нас з заяўкай, каб мы разлічылі ім платныя паслугі. Але на дадзеным этапе я не магу адказаць вам на пытанне, бо мой кіраўнік не ўпаўнаважыў мяне адказваць на гэтае пытанне.

**Аддзел адукацыі: усе мерапрыемствы ў школах бясплатныя! Калі б 14-я школа хацела зарабіць грошы, спектакль трэба было б паказваць на заводзе**

На пытанне пра платныя спектаклі адказала намесніца аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Жанна Карповіч** і пракаментавала сітуацыю з платнымі спектаклямі ў школе №14:

– Паказ спектакляў школа, сапраўды, можа аказваць у межах школьных бізнес-кампаній. Для гэтага шыюцца або набываюцца касцюмы, робяцца афішы. І школа, каб зарабіць грошы, павінна выехаць на прадпрыемства , напрыклад "Амкадор", і там паказваць гэты спектакль, або ў школах мастацтваў. Тады б ішла гаворка пра платныя паслугі".

**А рабіць платнымі канцэрты ў межах акцыі "Нашы дзеці" недапушчальна.**

Аддзел адукацыі наадварот забараніў пускаць у школы клоўнаў і аніматараў, каб тыя аказвалі свае платныя паслугі. Мы разумеем, што Новы год – гэта, у першую чаргу, свята дамашняе. У бацькоў, акрамя падарункаў сваім дзецям, у гэты перыяд і так шмат расходаў. І такога быць не можа, каб школа яшчэ брала грошы за свае мерапрыемствы. Таму яшчэ раз падкрэслю: усе навагоднія мерапрыемствы – ранішнікі, дыскатэкі – будуць бясплатныя.

– Тады атрымоўваецца, што 14-я школа не мела права праводзіць платныя спектаклі?

– Мела, але толькі па-за межамі школы.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)



# Чаму варта адрадзіць былы касцёл у Батурыне

ВІЛЕЙКА

**Як вы гледзіце на тое, каб на Вілейшчыне, у нашым Батурыне, адрадзіць гістарычную спадчыну?**

Яшчэ з глыбіні стагоддзяў гэта вёсачка заўжды была не вялікай, але далёка вядомай. Бо праз яе пралягалі найкарацейшыя гандлёвыя шляхі з Масквы на Гародню ды Вільню, з Мінска на Полацк ды Петраград.

У Батурыне была карчма, заезны двор. А як сведчаць некаторыя гістарычныя факты, у 17 стагоддзі тут пабудавалі капліцу, якая ўваходзіла ў Лукавецкі маёнтак **Брыгіды Шумскай**. Батурына на той час было ў Вялікім Княстве Літоўскім. У 1793 годзе, пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, Батурына адышло да Расійскай імперыі. Пад гэта пераўтварэнне патрапіла і батурынская капліца. Але праз некалькі гадоў была адноўленая уніяцкая царква і вернутыя ёй ранейшыя прыходы.

Тады ж утварылі Мінскае каталіцкае біскупства, у склад якога ўвайшлі каталіцкія прыходы Лагойшчыны, да якіх далучылі і батурынскую капліцу. У 1796 годзе храм быў "асвечаны абрадам рымскім пад тытулам святога Міколы" і стаў філіяльным касцёлам пры парафіі ў Гайне.

За ўвесь час свайго існавання гэта святыня перажыла шмат пераўтварэнняў і скончыла сваё існаванне касцёлам у 1943 годзе. Касцёл спалілі фашысты разам з вёскай. Батурына адрадзілася, а вось касцёл – не. Было б вельмі правільным, каб на месцы спаленага касцёла паўстала хаця б каплічка. Там жа была б ушанаваная памяць апошняга ксяндза Батурынскага касцёла **Вацлава Сэнка**.

Святар падчас вайны не збег з Батурына, а застаўся тут, каб са сваімі парафіянамі раздзяліць усе цяжкасці. Пасля вайны з'ехаў у Польшчу і там напісаў кнігу пра ваенное ліхалецце ў нашых мясцінах. Вось урывак з яе ў перакладзе з польскай **Леанілы Міцько (Папковіч)** з Дварца.

"Пад канец лета з'явіўся ў мяне мой добры знаёмы пан **Ян Цекатоўскі** з маёнтка Чарвякі, які належаў да роду **Бароўскіх**, маёнтак і вёска ацалелі. Перад вайной ён апекаваўся рыбнымі ставамі на тэрыторыі ў некалькі дзясяткаў гектараў. Цяпер вада са ставоў была спушчаная, а тэрыторыя яго ўяўляла сабой пустэчу.

Пан Цекатоўскі прыехаў за мной на падводзе з намерам забраць да сябе.

Разам з **Агатай**, сабраўшы свае пажыткі, з ахвотай пакінуўшы спаленае Батурына з касцёлам, паехалі ў Чарвякі.

Нарэшце змог зажыць па-людску, а не як жывёліна. У хаце, якую мне далі, стварыў капліцу і пачаў гаспадарыць. Хутка па ваколіцы разышлася вестка, што ў Цекатоўскага жыве і гаспадарыць ксёндз.

У той капліцы спаў, еў, хрысціў, вянчаў, праводзіў святую імшу і гэтак далей. Трывала гэта аднак не так доўга. Аднаго дня ўвосень з'явіліся партызаны і прапанавалі з'ехаць, бо гэта памяшканне займе іх камендант. Маўляў, нам тут зручна, так што сабе можаш знайсці іншае месца ў вёсцы.

Пайшоў шукаць новую кватэру. На другім канцы, пад лесам, стаяў прыватны двухпавярховы дом, у якім размяшчалася школа. Гаспадыня была простая праваслаўная жанчына, удава, з двума сынамі і нявесткай старэйшага трэцяга сына, які быў арыштаваны. Ахвотна адпусціла месца, колькі хацеў – два пакоі пад страхой і пустую школьную залу.

У зале падрыхтаваў алтар і зрабіў у ёй капліцу, а ў пакойчыках на гарышчы пасяліўся з Агатай.

Здавалася, што цяпер будзе выгадней і лепш. Але вайна хутка дала пра сябе знаць. Дзесьці ў канцы верасня ці ў пачатку кастрычніка, ідучы ў суседнюю вёску, заўважыў нямецкія самалёты, якія яе бамбілі. А другая, якая знаходзілася ў другім накірунку, ужо цалкам гарэла. Было гэта недалёка і было відаць усё як на далоні. Колькі было моцы, пабег да сваёй кватэры. Людзі з маёй вёскі ўжо гэта ўбачылі, пачалі выкідаць усё з хат і выносіць у лес, нягледзячы на тое, што надыходзіў вечар. Скончылася ўсё на ўзрушэнні.

Чакалі вестак з пацярпелай вёскі. На шчасце, там ніхто не загінуў, толькі вёска ўся пайшла з дымам. Вёскі, якія не спалілі, былі знішчаныя зверху. Цэлы кастрычнік уначы спалі ў хатах на "адно вока", а цэлымі днямі сядзелі ў лесе.

Прыйшла чарга і на нашу вёску Чарвякі. Па поўдні пачалася бамбёжка і абстрэл. Хутка вёска апынулася ў полымі, а мы за гэтым назіралі з лесу. Калі пачало цямнець, немцы паляцелі. Вёска дагарала. Ратаваць раней яе не было магчымасці, бо людзей абстрэльвалі з самалётаў.

Толькі пасля іх адлёту людзі пачалі ратаваць тое, што яшчэ можна было. Ратавалі ўсю ноч. Некалькі дамоў, у тым ліку і наш, ацалелі. Шмат пагарэльцаў, якія страцілі ўсё, прытуліліся ў нашым доме. У зале, дзе была капліца, засяліліся некалькі сем'яў. Людзі ляжалі адзін каля аднаго. Пакойчыкі на гарышчы засталіся ў мяне. У адным зрабіў каплічку, у другім была мая спальня.

Пачалося жыццё пад пагрозай, але ў грамадзе. Людзі былі хоць і праваслаўныя, але вельмі зычлівыя.

Пачалі прыходзіць да каплічкі. Маё душпастырства нагадвала місію дзесь у джунглях, толькі замест зверанят былі дзікія людзі, але з гэтым неяк ужываліся.

Найгорш было тое, што не хапала віна імшовага і аплатак, хоць астатняе выпякаў сам. Агата здабыла недзе пшаніцы, змалола ў жорнах, перасеяла чорную муку на чыста пшанічную. Мясцовы каваль па маім прыкладзе зрабіў форму для выпечкі аплатак. Атрымліваў з яе танюсенькае прасяное печыва, падобнае да яўрэйскай мацы. А віно мне дасталі партызаны. Адзін, на кані, прывёз мне маленечкую бутэлечку віна ад ксяндза аж са Смаргоні.

Відаць, я ў партызан быў на добрым рахунку. Яны былі ўладарамі цэлай ваколіцы. У кожнай ацалелай вёсцы ці ў спаленай сядзеў іх прадстаўнік, лічыўся іх камендантам. Без яго дазволу нельга было нікуды рушыць.

Было тых партызан без ліку. Пра іх выгляд, узбраенне і звычкі можна было б напісаць цэлую кніжку. Што тут адбывалася! Гэта былі пачвары, без пачуццяў, без нейкай культуры, бесчалавечныя. У такім таварыстве трэба было жыць.

На першым месцы ў іх была самагонка, жратва ды дзяўчаты. Хадзілі на рабаванне за дзясяткі вёрст. Цягнулі сюды жывёлу, адзенне, харчы і ўсё, што ўдавалася.

Людзі выжывалі, але недарма. За тое выжыванне дарагой цаной разлічваліся дзяўчаты і жанчыны. Не жаліліся, не наракалі. Кожная мела свайго альбо сваіх, каторыя за жаночыя паслугі з імі дзяліліся нарабаваным.

Меў з партызанамі і прыгоды. Вяртаўся аднаго разу вечарам у сваю кватэру, а тут каля дзвярэй на кані стаіць узброены абарванец. Такі п'яны, што ледзь трымаецца ў сядле. Падыходжу, каб зайсці да сябе, а ён пытае: "Хто тут жыве?" Каб пастрашыць, адказваю: "Важнае начальства". У гэты момант выходзіць з хаты партызан, а я і дадаю: "Вось начальнік!" А як высветлілася, начальнікам апынуўся гэты п'янтос на кані, якому і падпарадкоўваўся наш кватарант-партызан.

"Ты кпіш з мяне, – крычыць, – з такімі мы хутка". Выцягнуў рэвальвер, каб мяне застрэліць, але я ўваліўся ў хату і папрасіў захінуць мяне, калі той зойдзе, каб я змог уцячы праз акно. П'янтос крыху пастаяў, схаваў рэвальвер і паехаў. Мабыць, пабаяўся злазіць з каня, таму што быў моцна п'яны.

На другі дзень я ішоў з хлопцам у бок Брыгідава, а тут раптам з кустоў узнік той самы партызан-начальнік, але пешшу, каня трымаў за аброць. Падумалася, што тут ужо мне канец. Тым часам ён звяртаецца да мяне: "Вы хто?" Адказваю: "Ксёндз з Батурына". Працягвае мне руку, вітаецца і прамаўляе: "Даўно хацеў з Вамі пазнаёміцца, шмат чаго добрага пра Вас чуў". Так мяне апякло, занерваваўся: такое перажытае назаўсёды пакідае сляды.

Жыў у той школе з восені 1943 да вясны 1944 года. Не адзін раз чуў, што немцы набліжаюцца. Колькі разоў трэба было ўцякаць у лес, недасыпаць, мерзнуць, перажыць не адзін стрэс, але мая каплічка не замыкалася – адпраўляў імшу, хрысціў, вянчаў, маліўся за памерлых. Ездзіў, крыху радзей, у далейшыя ваколіцы з маімі місійнымі выправамі".

Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.



Батурынскі касцёл. Абвяшчэнне БНР. 1918 год.




Як выглядаў бы касцёл у Батурыне, дапамог уявіць фоташоп.

КАЛЯНДАР

22 СНЕЖНЯ

**1922.** 95 гадоў з дня нараджэння **Алены Васілевіч**, беларускай пісьменніцы, заслужанага работніка культуры Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976) за тэтралогію "Пачакай, затрымайся...".

**2001.** Памёр **Уладзіслаў Чарняўскі**, каталіцкі святар, перакладчык Біблії і літургічных тэкстаў на беларускую мову. Нарадзіўся ў 1916 годзе ў засценку Амружын, цяпер Ашмянскі раён. Са снежня 1953 выконваў святарскія абавязкі ў мястэчку Вішнева, што ў Валожынскім раёне. У паўсядзённай душпастырскай дзейнасці звяртаўся да вернікаў з казаннямі па-беларуску. Пахаваны ў Вішневе.

24 СНЕЖНЯ

**1761.** Нарадзіўся **Якуб Ясінскі**, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года.

**1798.** Нарадзіўся **Адам Міцкевіч**, польскі паэт, цесна звязаны з Беларуссю, асветнік, філамат.

25 СНЕЖНЯ

**Каляды каталіцкія.**

**1962.** 55 гадоў назад адбылося ўзбуйненне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага дзялення Беларусі (са 123 раёнаў створана 77).

27 СНЕЖНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння **Уладзіміра Караля** (1912 – 1980), беларускага архітэктара, дзяржаўнага дзеяча, заслужанага будаўніка Беларусі, народнага архітэктара СССР. Сумесна з суаўтарамі распрацаваў у 1948–1969 гадах генеральны план Мінска, праекты планіроўкі і забудовы Ленінскага праспекта, Кастрычніцкай плошчы, Галоўнага паштамта, Цэнтральнага тэлеграфа, помніка на плошчы Перамогі і інш. Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу Брэсцкая крэпасць-герой.

1924. Памёр **Леў Бакст** (Леў Розенберг), мастак, сцэнограф, кніжны ілюстратар, майстар станковага жывапісу і тэатральнай графікі, заканадавец моды. Нарадзіўся 27 студзеня 1886 года.

28 СНЕЖНЯ



**1952.** 65 гадоў з дня смерці **Уладзіслава Страмінскага**, беларускага і польскага мастака, прадстаўніка авангарднага мастацтва, заснавальніка ўнізму. У 1923–1924 гадах ён жыў і працаваў у Вілейцы, дзе выкладаў малюнак у мясцовай гімназіі імя Генрыка Сянкевіча.

Марыя БЕРАСНЕВА.





# Вешанкі, хэндмэйд і турыстычны партал:

## у Валожыне падвялі вынікі першай стартап-школы

ВАЛОЖЫН

**Пачынаць сваю справу цяжка заўсёды. А калі рабіць гэту справу не толькі на сваю карысць, а ўключаць у дзейнасць людзей з абмежаванымі магчымасцямі?**

У Валожыне падвялі вынікі першага такога эксперыменту.

Першы набор стартап-школы праходзіў у рамках праекта "Валожын без бар'ераў". Мэта праекта – зрабіць сацыяльныя і рэкрэацыйныя паслугі ў Валожынскім раёне больш даступнымі для людзей з інваліднасцю.

У фінале першай школы стартапаў былі прадстаўленыя тры бізнес-ідэі.



У цяпліцы 17 градусаў цяпла і высокая вільготнасць. А вешанкі растуць.

### Вешанка – візітная картка Валожыншчыны

Найбольш паспяховай ідэяй можна назваць вырошчванне грыбоў-вешанак у цяпліцы, якая месціцца на тэрыторыі аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў.

Прадставілі гэту ідэю **Аляксей і Ларыса Шчарбачэвічы**.

Яны расказалі, што на сённяшні дзень закупленае ўсё неабходнае абсталяванне, каб цяпліцы працавалі, каб салома з міцэліем закладваліся ў тэрмін.

Гэтай працай і займаюцца інваліды, якія папярэдне прайшлі навучанне.

– З адной закладкі, – кажа Ларыса, – мы можам збіраць тры ўраджаі.

Пасля таго, як вешанкі вырастуць, іх здымаюць і фасуюць у кантэйнеры. І грыбы можна набыць адразу тут, у цяпліцах.



Ларыса Шчарбачэвіч, злева, не толькі паказала, як растуць вешанкі, але і падзялілася рэцэптам іх прыгатавання.



Тапіарый аўтарства Алены Жданюк.

**Каштуе кілаграм грыбоў 6 рублёў.**

– Мы плануем прадаваць сваю прадукцыю ў Івянцы і Пяршаях. Бо гэтыя раёны да сённяшняга дня застаюцца аднымі з самых забруджаных радыяцыяй на Валожыншчыне. А вешанка, як вядома, гэта экалагічна чысты прадукт, які добра ўплывае на вывядзенне радыеактыўных элементаў з арганізма чалавека.

З аднаго ўраджаю збіраюць да 60 кілаграмаў грыбоў.

Пасля прэзентацыі Ларыса Шчарбачэвіч запрасіла ўсіх наведаць цяпліцу, каб на свае вочы пераканацца, як усё працуе.

У цяпліцы 17 градусаў. Там вільготна. Але грыбам такое надвор'е падабаецца, бо з мяхоў саломы тырчаць пругкія шэранькія капялюшыкі экалагічнага прадукту, які ў хуткім часе трапіць на сталы валожынцаў, а ў перспектыве і на сталы жыхароў іншых раёнаў Беларусі.

### Інклюзіўны турыстычны партал

Мэта турыстычнага партала "Way" спрасціць адпачынак людзям з інваліднасцю. На карце гэтага турыстычнага партала пазначаныя аграсядзібы, рэстараны, клубы, у якіх прадугледжаныя ўсе ўмовы для людзей з інваліднасцю.

**Павел Маліцкі**, аўтар праекта, сказаў:

– Цяпер у распрацоўцы версія сайта для людзей з дрэнным зрокам.

На пытанне, якім чынам папаўняецца база месцаў для адпачынку, Павел патлумачыў:

– Гаспадары і дырэктары нам самі дасылаюць свае прапановы. Робяць фотаздымкі, каб людзі, напрыклад, у інвалідных вазках, маглі паглядзець, ці сапраўды тая або іншая аграсядзіба абсталяваная пандусамі, або ці дазваляе шырыня дзвярэй, напрыклад, наведаць парылку.

### Хэндмэйд-упрыгожванні рэкламуюць дзеткі з сіндромам Даўна

**Алена Жданюк** апошняя прадстаўляла сваю бізнес-ідэю.

Нельга сказаць, што ідэя Алены новая. і хэндмэйд-аксесуараў нікога сёння не здзівіш.

А вось тое, што Алена надала свайму бізнесу не толькі сацыяльна-арыентаванае адценне, а сапраўды добрае адценне – выклікае павагу.

Вырабы Алены (абручы, заколкі) рэкламуюць дзяўчынкі з сіндромам Даўна.

Арганізатары мерапрыемства падкрэслілі, што падвялі толькі першыя вынікі працы стартап-школы ў Валожыне. На будучы год будзе аб'яўлены новы набор. Таму, калі ў вас ёсць канкрэтная прапанова або толькі ідэя бізнес-праекта, напэўна, варта стаць вучнем стартап-школы.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**





# Нямецкіх сяброў частавалі баршчом і дранікамі

## Паэт і перакладчык з Вілейшчыны прыгадвае паездку ў Германію ў 1991 годзе

ВІЛЕЙКА

**У 1991 годзе ў Германію паэт і перакладчык Уладзімір Папковіч ехаў не ўпершыню. Аднак і на гэты раз было чаму здзівіцца: каля сотні гатункаў кілбасы ў магазіне, невядомыя тады яшчэ ў Беларусі гамбургеры з Макдональдса.**

Тады сябры Уладзіміра Антонавіча, сям'я **Хайнэке**, запрасілі прыехаць пісьменніка разам з жонкай **Ларысай**. У Папковіча нават і сёння дакумент той ёсць – Aufforderung, што значыць "Запрашэнне".

За візай муж і жонка паехалі ў Маскву.

– Калі прыехалі туды ў сярэдзіне жніўня, убачылі перад варотамі пасольства такі вялізны натоўп, што нас, без досведу і не вельмі рашучых у такіх сітуацыях, ахапіў жах. Як туды прабʼешся? – прыгадвае Уладзімір Антонавіч.

Але праз нейкі час выйшаў супрацоўнік і абʼявіў, што хвалявацца не трэба, сёння пасольства прыме ўсіх. Неўзабаве наведнікаў запрасілі ў будынак, яны запоўнілі паперы. А праз два дні атрымалі візы.

### Пірог з вішняй нагадваў пра родны Дварэц

Тое падарожжа па Германіі пачалося з Кёльна. Папковічаў сустрэлі **Клаўс** і **Урсула Хайнэке**, адразу адвялі ў прывакзальную кавярню.

Падчас гэтага падарожжа было шмат абедаў у кавярнях. Нямецкія гаспадары звычайна замаўлялі сабе салату. А Папковіч браў пірог з вішняй:

– Гэта як напамін пра родны кут. Вельмі ж смачныя вішні раслі ў нашым Дварцы на Вілейшчыне.

Жанчыны звычайна замаўлялі марожанае. Дзівіла тое, што ў кавярнях – сотні наведнікаў, а амаль усе афіцыянты – мужчыны.

У першыя дні падарожжа гасцей з Беларусі павялі ў прадуктовы магазін у Браўнфэльсе:

– Процьма прадуктаў! Кілбасы, садавіна, гародніна. На адным падносе – 30 гатункаў кілбасы, а такіх падносаў – чатыры ці пяць, – эмацыйна распавядае Уладзімір Антонавіч.

Хайнэке прапанавалі Ларысе Папковіч выбраць прадукты, каб потым прыгатаваць беларускі абед. Нямецкіх гаспадароў беларусы частавалі баршчом і дранікамі.

– Я заўважыў, што немцы высока цэняць чалавека, які нешта ўмее. Як, напрыклад, Ларыса: не толькі боршч зварыць, але і стол упрыгожыць, і кветкі падабраць для стала, – дзеліцца Уладзімір Антонавіч.

### Захапілі цікавосткі Франкфурта-на-Майне

У адзін з дзён Папковічы павезлі ў Франкфурт-на-Майне. Шмат хто са знаёмых старэйшага пакалення у 1970-80-х гадах быў у Франкфурце-на-Одэры. Хтосьці з начальства не адзін раз. А вось на Майне...

Мой субяседнік распавёў, што горад называюць яшчэ Банкфурт, таму што гэта дзелавая і фінансавая сталіца Еўропы. Будынкі банкаў відаць здалёк, яны вышэйшыя за самыя высокія новыя забудовы ў горадзе.

Майн цячэ спакойна, праз яго вядуць лёгкія, ажурныя масты, а за Майнам – раён Заксэнхаўзэн з яго музеямі ўздоўж берага ракі.

Шмат славутасцяў горада тады прыцягнула ўвагу беларускіх гасцей. Гэта кайзераўскі палац, у якім ад 1562 года ладзілі банкеты пасля каранавання каралёў. У ім жа галерэя партрэтаў каранаваных асоб.

А далей – царква святога Паўла, у якой пасля рэвалюцыі 1848 года адбываліся першыя пасяджэнні нямецкага Нацыянальнага сходу, першага парламента Германіі і там жа была прынятая першая нямецкая Канстытуцыя.

Усе цікавосткі блізка, усё ў старым горадзе: і гандлёвая вуліца Цайль, самая ажыўленая ў Франкфурце, і бацькоўскі дом пісьменніка **Вольфганга Гётэ**, дзе ён нарадзіўся ў 1749 годзе.

Сюды Ларыса і Уладзімір Папковічы зайшлі на экскурсію.

– Нас сустрэла пажылая, даволі чапурыстая немка, якая ведае праграму экскурсіі на памяць і не адыходзіць ад яе, бо час абмежаваны, – прыгадвае Папковіч.

### Прафесар у гумовых ботах і саламандры ў склепе

У горадзе Айторфе Папковічы гасцявалі ў сям'і **Брыскорнаў**. **Хайдрун Брыскорн**, музыкант аркестра Кёльнскага радыё, некалі была ў Віцебску. І Папковіч суправаджаў групу як перакладчык. Так і пазнаёміліся.

Домік іх сям'і стаяў на ўскраіне лесу. З шашы трэба ехаць па простай прасёлкавай дарозе, дзе машыны ходзяць рэдка, як у нас з вёскі ў вёску. Каля дома гасцей сустрэў прафесар **Эгбэрт Брыскорн**. Уладзіміру Антонавічу асабліва запомнілася, што той быў у гумовых ботах.

Па словах Папковіча, Брыскорны – незвычайная сям'я. Прафесар Эгбэрт Брыскорн працаваў у Боне ва ўніверсітэце, дзе выкладаў матэматыку. Фраў Хайдрун Брыскорн іграла на альце ў аркестры. Не проста заняць вакантнае месца ў гэтым аркестры, бо бываюць конкурсы па некалькі соцень прэтэндэнтаў.

На працу яны ездзілі кожны на сваёй машыне. Прыкладна аднолькавая адлегласць, што да Бона, што да Кёльна – недзе каля 60 кіламетраў.

Брыскорны – вегетарыянцы і сапраўдныя рупліўцы за зберажэнне прыроды. У іх у склепе жывуць саламандры.

А калі аднойчы Брыскорны з Папковічамі ехалі па іхняй прасёлкавай дарозе да шашы пасля дажджу, фраў Брыскорн вяла машыну так, каб перад ёй можна было пацыху ісці пешшу. Прафесар матэматыкі ішоў, пільна ўглядаючыся ў дарогу. Калі там трапляліся маленькая жабка, ён браў яе ў рукі і пяшчотна пераносіў на ўзлесак, дзе яна не магла ўжо трапіць пад колы.

– У той час у мяне, магчыма, і выклікала ўсмешку такая сентыментальнасць, – згадвае Папковіч. – Прыпаміналіся нашы дзіцячыя забавы, калі мы клалі ўпоперак бервяна дошку, на адзін канец усаджвалі жабу з сажалкі, а па другім білі нечым цяжкім, і жаба, раскінуўшы лапкі, узлятала высока ў неба.

Цяпер Уладзімір Антонавіч перакананы, што гэта дзікунства. Кажа, што яму сапраўды сорамна:

– Колькі мы, беларускія паэты, напісалі вершаў пра родны край і спакойна далі і даём нішчыць жывое ў нашых палях і лясах. Хаця, здаецца, і нішчыць ужо мала чаго засталося.

### Як немцы не дазволілі пакаштаваць гамбургер

Гуляючы па Айторфе, пісьменнік з Беларусі ўбачыў Макдональдс і сказаў, што было б здорава пайсці і пакаштаваць гамбургер. У нас такога яшчэ не было. Хайдрун вельмі здзівілася тады: "Ты, інтэлігентны чалавек, еў бы гамбургер? Без відэльца і нажа запіхваць у рот гэты амерыканскі прадукт, зроблены невядома з чаго? Не, не і не!"

У Айторфе зладзілі сустрэчу Уладзіміра Папковіча з нямецкімі гімназістамі 12-13 класаў. Дзеці задавалі пытанні пра тое, што будзе з Савецкім Саюзам, рэспублікамі, Беларуссю, ці ёсць атамная зброя на тэрыторыі Беларусі, а калі ёсць, то што з ёй будзе?

– У мяне не запісана, што я ім адказваў, – кажа Папковіч. – Але ведаю, што не спрабаваў неяк выкруціцца, заглядзіць праблемы, якіх тады хапала, да вырашэння якіх мы і сёння не прыйшлі яшчэ канчаткова. І сёння мне адказы, думаю, даваліся б куды цяжэй.

У Германіі Папковіча, звычайнага выкладчыка ўніверсітэта, чамусьці называлі прафесарам. Спачатку ён спрабаваў аднеквацца, а потым махнуў рукой.

За вячэрай шмат гаварылі пра гісторыю Германіі. Прафесар Брыскорн прыгадваў свае маладыя, 1960-я, гады. Рэвалюцыйны уздым у студэнтаў. Падзеі ў Германіі, у Чэхаславакіі.

– А мне не было што распавесці пра тыя часы, – кажа Уладзімір Антонавіч.

У 1990-я, расказаў гер прафесар, у тых дарослых палымяных некалі рэвалюцыянераў – самазадаволенасць і застой.

– Я здзіўляюся. Які застой? Вось у нас быў застой, дык застой.

А яшчэ ў адной з размоў прафесар Брыскорн спытаў у Папковіча: "Для мяне загадка. Адкуль такая незразумелая сімпатыя немцаў да рускіх?"

– Я – беларус, – адказаў Уладзімір Антонавіч.

На тым і разышліся.



Фота забяспечанае Уладзімірам Папковічам.

Уладзімір Папковіч у Кёльне з выкладчыцамі нямецкай мовы Віцебскага ўніверсітэта.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)





## Шахматысты сабраліся на штогадовы калядны бліц-турнір

МАЛАДЗЕЧНА

**17 снежня ў Маладзечне, у шахматным клубе, правялі турнір.**

Па традыцыі, якая дзейнічае каля 20 год, маладзечанскія шахматысты збіраюцца перад Новым годам, каб за адзін дзень вызначыць мацнейшага ў вельмі хуткім часавым шахматным рэгламенце. Кожнаму ўдзельніку ў партыі давалася пяць хвілін.

У нядзелю ў шахматным клубе не было недахопу ў гульцах і гледачах. У асноўную сетку турніру запісаліся 12 шахматыстаў.

Па кругавой сістэме яны паспаборнічалі за выхад у фінальную шасцёрку. А далей шасцёрка ў два кругі выявіла мацнейшага гульца 2017 года па шахматах у Маладзечне.

У шасцёрку лепшых трапілі **Віктар Акотчык, Андрэй Чаеўскі, Алег Дылеўскі, Уладзімір Бялоў, Андрэй Ткачоў** і **Віталь Качаткоў**.

Дзевяць з дзесяці і першае месца заваяваў Віталь Качаткоў. Другое месца і шэсць з паловай ачкоў – у Андрэя Чаеўскага. З шасцю ачкамі тройку лідараў замкнуў Алег Дылеўскі.

Мацнейшая чацвёрка шахматыстаў Маладзечна сфарміравалася на працягу апошніх дзесяці гадоў. Сюды традыцыйна ўваходзяць Віктар Акотчык, Алег Дылеўскі, Віталь Качаткоў і Андрэй Чаеўскі. Пераможцы атрымалі падарункі, кубкі і медалі.

Па словах шахматыста Віталя Качаткова, шахматны бліц – даволі папулярныя шахматныя спаборніцтвы. Ён хоць і адрозніваецца вельмі сур'ёзным падыходам да гульні, але мае сваю спецыфіку.

Па відовішчнасці, кажа Віталь Качаткоў, бліц "дае фору" звычайнаму шахматнаму турніру. Аднак, каб зразумець гэта відовішча ў якасці гледача, трэба хаця б элементарна умець гуляць у шахматы.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Маладзечне правялі абласныя хакейныя спаборніцтвы

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

11-14 снежня на абласных спаборніцтвах па хакеі "Залатая шайба" змагаліся шэсць камандаў.

За перамогу спаборнічалі хакеісты з Маладзечанскага, Барысаўскага, Салігорскага, Мінскага раёнаў і Жодзіна.

Як распавялі ў аддзеле спорту і турызму Вілейскага райвыканкама, галкіпер з Вілейскага раёна **Кірыл Касмовіч** атрымаў званне лепшага варатара. А перамагла каманда хакеістаў з Салігорскага раёна.

Акрамя спаборніцтваў, юныя хакеісты правялі трэніроўку з хакейнай камандай "Дынама-Маладзечна".

## Баксёры атрымалі медалі на міжнародным турніры

АСТРАВЕЦ

Выхаванцы трэнера па боксе **Аляксея Маргужа** на міжнародным турніры атрымалі некалькі медалёў.

Спаборніцтвы ладзілі ў Кобрыне. Сабраліся баксёры з Расіі, Малдовы, Беларусі і Украіны.

Астравецкія спартсмены **Кірыл Саўко** і **Мікалай Чарнушэвіч** былі мацнейшымі за сваіх сапернікаў і перамаглі. Першы бой з малдаванінам выйграў і **Яўген Красоўскі** з Астраўца. У другім баі яго перамог баксёр з Брэста, і Яўген атрымаў срэбраны медаль. Прайграўшы адзін з баёў, срэбра ўзяў **Максім Каспяровіч**. Бронза – у **Аляксандра Баруўка**.

## У рэспубліканскім турыстычным конкурсе перамог жыхар Мядзельшчыны

МЯДЗЕЛ

Пераможцаў рэспубліканскага турыстычнага конкурсу "Пазнай Беларусь" назвалі 8 снежня на ўрачыстай цырымоніі ў Мінску.

Конкурс "Пазнай Беларусь" праводзіць Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным агенцтвам па турызме.

У намінацыі "Экскурсавод года" пераможцам стаў **Яўген Апанасевіч** з вёскі Палессе на Мядзельшчыне, паведамляе сайт Мядзельскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**

# "Дзе мяч – там і ўсе"

## Трэнер Анатоль Усенка распавёў, як стварыў футбольную каманду з інвалідаў па зроку і слыху

ВІЛЕЙКА

**– Сёння перад вамі людзі, якія даказалі сабе і ўсім, што немагчымае магчыма, – так прадставіў сваю футбольную каманду заслужаны трэнер Беларусі, чэмпіён свету і Еўропы па міні-футболе, уладальнік тытулу "Гонар нацыі" Анатоль Усенка.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Анатоль Усенка перакананы: людзі з інваліднасцю могуць дасягнуць поспехаў у спорце.

У суботу, 16 снежня, Анатоль Іванавіч і яго падапечныя сустрэліся з выхаванцамі і педагогамі дзіцячага цэнтра "Надзея", што на Вілейшчыне. Каманда Усенкі – унікальная. Па словах трэнера, раней стварылі больш падобных камандаў. На сённяшні дзень – толькі адна.

### Дзякуючы футболу пабачылі свет

Анатоль Усенка і яго футбалісты шмат ездзяць па Беларусі, праводзяць сустрэчы, майстар-класы ў школах і рэабілітацыйных цэнтрах. У "Надзеі" бываюць некалькі разоў на год. А пачалося ўсё ад 2006 года, калі ён прыехаў у цэнтр, каб урачыста адкрыць пляцоўку па міні-футболе.

На сустрэчы Анатоль Іванавіч, які 20 год трэніруе футбольную каманду інвалідаў па зроку і слыху, казаў пра тое, што спорт можа даць вялікія магчымасці. Галоўнае – не ленавацца, пераконваў трэнер гледачоў.

Менавіта дзякуючы спорту Анатоль Усенка пабываў на спаборніцтвах у розных краінах свету, дасягнуў значных вышынь у футболе, стаў уладальнікам тытулу "Гонар нацыі". А пасля свет пабачылі яго выхаванцы.

– Трэба ісці да вяршыні і не адчайвацца, не апускаць галаву, – казаў трэнер. – Бо калі апусціш, вяршыні не ўбачыш.

### "Такога нават у дваровым футболе не пабачыш"

Па словах трэнера, 20 год таму прапанова займацца футболам з інвалідамі яго не ўзрадавала і нават напалохала:

– Першая думка была: "Ну, я і патрапіў!", – прыгадвае трэнер. – Нават жонка дома тады заўважыла маю занепакоенасць.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Спачатку – сустрэча. Пасля – майстар-клас.

А прычыны для неспакою сапраўды былі. Па словах трэнера, каманда гуляла па прынцыпе "Дзе мяч – там і ўсё". Нават у дваровым футболе такога не ўбачыш, прыгадвае Анатоль Іванавіч. Але сказаць "не" трэнер не змог.

Адразу было нялёгка: прайгралі Італіі, прайгралі Іспаніі. А сёння каманда Анатоля Усенкі – пяцікратныя чэмпіёны свету па міні-футболе сярод аналагічных камандаў. Футбалісты выйгравалі ў аргенцінцаў, англічан, іспанцаў, французаў, бразільцаў.

Каб было працей працаваць, Анатоль Іванавіч вывучыў мову жэстаў. Бо некаторыя з футбалістаў не чуюць зусім. Каманды трэніруюцца два разы на тыдзень. Калі рыхтуюцца да спаборніцтваў, сустракаюцца часцей.

– Усе мае хлопцы працуюць, маюць вышэйшую адукацыю, многія добра ведаюць англійскую мову, – распавядае Анатоль Іванавіч пра каманду. – Ва ўсіх дзеці, сем'і. Таму часам ім і цяжка адарвацца ў выхадны, але я стараюся іх угаварыць.

### Не забараняць спорт, а дазіраваць нагрузкі

Займаючыся з хлопцамі 20 год, Анатоль Іванавіч пераканаўся: не варта бацькам забараняць дзіцяці займацца спортам, калі яно мае праблемы са здароўем. Толькі нагрузкі трэба дазіраваць.

На гэты раз з мужчынскай камандай **Анатоля Усенкі** прыехалі дзве дзяўчыны: капітан нацыянальнай жаночай зборнай Беларусі па футболе **Валерыя Карачун** і дачка футбаліста мінскага "Дынама", чэмпіёна былога СССР **Крысціна Курненіна**.

– Хоць футбол суправаджаў мяне з дзяцінства, з ім я не звязала жыццё, – распавяла Крысціна. – Але сёння сярод маіх знаёмых і сяброў шмат футбалістаў.

І ўсё ж праца дзяўчыны звязаная са спортам. Яна працуе трэнерам па фізічнай падрыхтоўцы. Пасля сустрэчы Крысціна правяла размінку з выхаванцамі "Надзеі". А потым былі таварыскія спаборніцтвы па футболе ў спартыўнай зале "Надзеі". Каманда Анатоля Усенкі згуляла з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, што адпачываюць і папраўляюць здароўе ў дзіцячым цэнтры.

Не абышлося без узаемных падарункаў. Тым больш, да Новага года і Калядаў застаецца зусім крыху.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)





# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Напітак з соку ягад або фруктаў.
3. Гэтае рэчыва вынайшлі выпадкова. Падчас выпрабаванняў лекаў ад язвы навукоўца паспрабаваў сумесь на смак, і яму спадабалася.
4. Чалавек, які можа пісаць абедзвума рукамі.
6. Калі гэты знакаміты расійскі мастак апынуўся ў Парыжы, яму моцна не хапала грошай. Як ён пісаў, мусіў “займацца керамікай” – распісваў талеркі.
8. Рэчыва, якое не праводзіць электрычнага току.
10. Адна з папулярных крыптавалют.
12. Вышэйшая духоўная асоба ў мусульман, якая надзелена правам выносіць рашэнні па рэлігійна-юрыдычных пытаннях.
14. Мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай.
15. Магутныя сілы прыроды, якія не падпарадкуюцца чалавеку.
16. Аб'ява аб спектаклі.
17. Вузкая пратаптаная людзьмі або жывёламі дарожка.
18. Палітычны і грамадскі дзеяч, навуковец у вобласці тэхналогіі новых матэрыялаў і пакрыццяў, доктар тэхнічных навук, мэр Маладзечна ў 1991-1994 гадах.
22. Перыяд, стадыя, этап.
23. Гурба снегу, намеценая ветрам.
26. Жаданне задаволіць свае патрэбы, імкненні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Шар ці яго паверхня знутры.
5. Вёска ў Ашмянскім раёне на рацэ Жылянцы. Калі была мястэчкам, атрымала магдэбургскае права ў 1705 годзе. Мяркуецца, што тапонім называе жыхароў лясного масіва.
7. Хлыст, які выкарыстоўваецца пры верхавой яздзе.
9. Прыбор, які ператварае гукавыя ваганні ў электрычныя і служыць для перадачы гукаў на вялікія адлегласці або для ўзмацнення.
11. Увакход аднаго нябеснага цела ў цень другога.
12. Непрыемнае пачуццё слабасці.
13. Высахлыя астанкі людзей, якія лічацца царквою святымі.
15. Сукупнасць прыкмет, якія характарызуюць мастацтва поўнага часу і напрамку з боку ідэйнага зместу і мастацкай формы.
16. Спосаб рэзання і зваркі металаў.
19. Фігавае дрэва, смакоўніца.
20. Сталіца Казахстана.
21. Нацыянальная беларуская страва, якая складаецца з прыгатаваных адмысловым чынам бульбы і мяса, а ў перакладзе на іншыя мовы выклікае здзіўленне і неразуменне.
24. Прыстасаванне, дзе распальваюць і падтрымліваюць агонь.
25. Лепшы гатунак лямцу.

## Адказы на крыжаванку з №50.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Чынш. 4. Амальгама. 5. Агламерацыя. 6. Хобат. 8. Чмут. 10. Хвіліна. 12. Рухавік. 15. Нядзеля. 17. Анігадкі. 21. Ерась. 22. Экер. 24. Аэробы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Шахматысткі. 3. Хам. 7. Хлор. 9. Хутар. 11. Манагуа. 13. Эгаізм. 14. Апалагет. 16. Рабы. 18. Дэбют. 19. Еўгеніка. 20. Экскурс. 23. Аклад.

## ГАРАСКОП 22-28 СНЕЖНЯ


**АВЕН.** Вы набываеце здольнасць уплываць на людзей, што дае пэўны плён. Выкарыстоўваць гэту здольнасць вы можаце як на карысць іншых, так і дзеля сваёй уласнай выгоды, але тады рызыкуеце нарвацца на непаразуменне і супрацьдзеянне.


**ЦЯЛЕЦ.** Дні будуць мітуслівыя і не прынясуць жаданых вынікаў. Сілы патрацяцца марна, а ніводная справа не будзе даведзеная да канца. Прычына – не разуменне жаданняў іншых людзей і адсутнасць магчымасці дамовіцца. Але ў вас з'явіцца магчымасць адпачыць, набрацца сіл і атрымаць каштоўны навык, пры дапамозе якога вы зможаце аказаць уплыў на пачуцці людзей і тым самым накіраваць агульныя намаганні ў патрэбнае рэчышча.


**БЛІЗНЯТЫ.** У вас можа разыгрыцца фантазія, і калі вы сябе своечасова не спыніце, то проста адарвяцеся ад рэальнасці. Прызямляцца будзе не прыемна. Калі вы збераце свае думкі ў кучу і вызначыцеся з тым, што хочаце, тады вас чакае пэўны поспех.


**РАК.** Ура!!! Вам спадарожнічае поспех. Вы зможаце дасягнуць такога стану, які прынята называць шчасцем. І гэта не абавязкова павінна быць звязанае з нейкімі матэрыяльнымі ці іншымі вынікамі. Шчасце яно ёсць само па сабе. Канкрэтна ў вашым выпадку, вы можаце знайсці яго ў зносінах з іншымі людзьмі, разумовай і творчай дзейнасці, а таксама ў падарожжах.


**ЛЕЎ.** Па магчымасці ўпрыгожвайце свой дом да святаў, каб энергія радасці, святла і любові запоўніла вас і перадалася іншым.


**ДЗЕВА.** Гэты час добра было б правесці ў месцах, далёкіх ад дома, каб атрымаць новыя ўражанні, новыя веды і паспытаць эмоцыі, якіх раней не адчувалі.


**ШАЛІ.** Эмоцыі будуць бушаваць, і калі вы не возьмеце іх пад кантроль, то вывесці вас яны могуць куды заўгодна, у тым ліку і не ў самыя прыемныя месцы.


**СКАРПІЁН.** Любыя рамантычныя падзеі ацэньвайце цвяроза і з пазіцыі ўласнай выгоды, мэтазгоднасці і разумнасці. Інакш вы рызыкуеце набыць, хоць і карысны, але зусім непажаданы досвед.


**СТРАЛЕЦ.** Усё будзе ісці плаўна і размерана, і такі спакой можа вам нават надакучыць, але вы знойдзеце спосаб развесяліць сябе. Новыя ідэі дазволяць вам расшавяліць не толькі сябе, але і ўсіх вакол. Толькі будзьце асцярожныя, бо не ўсё можна варушыць.


**КАЗЯРОГ.** Дні правядзіце ў разборы дробных клопатаў і розных спрэчак, а вось нейкіх вынікаў ад гэтай дзейнасці не чакайце.


**ВАДАЛЕЙ.** Як вы праведзяце гэтыя дні, цалкам і поўнасцю залежыць ад вас, а дакладней ад таго, здзейсніце вы якое-небудзь глупства ці, наадварот, паступіце мудра. Падзеі заклікаюць вас праявіць вытрымку і цярпенне, не прымаць якіх-небудзь неабдуманых рашэнняў. Дзейнічаць па парыве, эмацыйнаму ці якому-небудзь іншаму, тоіць у сабе небяспечныя вынікі.


**РЫБЫ.** Паспрабуйце ўтрымаць раўнавагу і захаваць спакой. Вы можаце адрадзіць старыя адносіны, выправіць шматлікія памылкі, але толькі ў тым выпадку, калі ў вас хопіць сіл і вытрымкі дзейнічаць планамерна.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | 3 | | | 2 | | | |
| 5 | | | | 6 | | 1 | 2 | |
| 9 | | | | | | | | 4 |
| | | 8 | | 7 | | | | |
| | | | 2 | | 3 | | | 8 |
| | 3 | 6 | | | | 7 | | |
| | 7 | | 9 | 2 | | | | |
| | | | | | 5 | | 9 | 6 |
| | | | 8 | | 4 | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.




## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА СНЕЖАНЬ**



**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**
**Ад 21 да 29 снежня**
запрашаем дзяцей і бацькоў на шумныя і вясёлыя **РАНІШНІКІ** з навагоднімі сюрпрызамі, конкурсамі, прызамі і добрым настроем на ўвесь надыходзячы год! А самым галоўным прызам для ўсіх стане

навагодняя казка-мюзікл
“**Цётухна праструда і Новы год**” (3+)

Тэатр мае права на замену спектакляў. **Маладзечна, вул.Чкалава, 7**. Кантактныя тэлефоны: **75-29-16** – намеснік дырэктара, **76-17-32** – галоўны адміністратар, **75-24-17** – каса. E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**РЭПЕРТУАР НА СНЕЖАНЬ, СТУДЗЕНЬ**

**Чароўнае навагодняе прадстаўленне “КАЗАЧНЫ СНЕГАПАД”**
17-30 снежня 2017 г.
2-5 студзеня 2018 г.

У праграме: казачны спектакль “**Пані Мяцеліца**” *братоў Грым*;
сустрэча з Дзедам Марозам, Снягуркай, казачнымі героямі;
вясёлыя карагоды, гульні, танцы, вершы, падарункі.

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
**Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.**
Тэл. (8-0176) **74-62-19**, **50-56-96**.

УНП 600136804

ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

**23 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | 0 | | +0 | | -1 | | +2 | |
| | +1 | | +0 | | +2 | | +3 | |
| | 739 | ↘ 5 | 740 | ↘ 4 | 726 | → 8 | 728 | → 6 |
| **Вільня** | +0 | | 0 | | +2 | | +5 | |
| | +1 | | 0 | | +4 | | +6 | |
| | 746 | ↗ 5 | 745 | ↗ 4 | 737 | → 8 | 738 | → 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.32
Захад 16.51
Даўжыня дня 7.19

Усход 12.21
Захад 22.13
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -21,3 °С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +10,6 °С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,9 мм у 1989 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● Жыве ў Маладзечне дзяўчынка Аксана. І фехтаваннем яна займаецца, і ролікі здымае, і вядзе сваю старонку ў сацыяльных сетках. І робіць яна гэта ў інвалідным вазку. У Аксаны скончыліся ідэі, на якія б тэмы яна магла здымаць відэа, таму звярнулася да нашых чытачоў. Расповед пра гэту дзіва-дзяўчынку чытайце праз тыдзень.

ЗАО «**Молодечномебель**» приглашает за покупками в магазины г. Молодечно по адресам:
***ул. Металлистов,1*** и ***ул. Либаво-Роменская, 83***

**ПРЕДНОВОГОДНЯЯ АКЦИЯ!**
**Распродажа изделий коллекции 2017 года**

СКИДКИ ДО 10%

ЛИДЕР 2017
МОЛОДЕЧНОМЕБЕЛЬ
+ РАСПРОДАЖА

**НАБОРЫ МЕБЕЛИ ДЛЯ КУХНИ** (срок изготовления 30 дней) – скидка **15%**
**НАБОРЫ МЯГКОЙ МЕБЕЛИ** – рассрочка на **12 мес.**
(8-0176) **77-61-76** – магазин по ул. Металлистов,1
(8-0176) **74-65-62** – магазин по ул. Либаво-Роменская, 83-а
Велком (8-044) **708-51-81**
УНП 600203065

ОкнаХом ГАРАНТИЯ КАЧЕСТВА
8033 340-06-06
8029 340-06-06
ОКНА и ДВЕРИ ПВХ
ДВЕРИ МЕЖКОМНАТНЫЕ и МЕТАЛЛИЧЕСКИЕ
СКИДКИ 30%
ЛУЧШИЙ СТРОИТЕЛЬНЫЙ ПРОДУКТ ГОДА 2017
ЛИДЕР 2017
**РАССРОЧКА**
**без первоначального взноса до 12 месяцев!**
УНП 691403311

## Прысвячэнні, вершы, скарагаворкі:

### у Ільі прэзентавалі новы зборнік Міколы Кутаса

ВІЛЕЙКА

Днямі ў Ільянскай сярэдняй школе імя Грымаца правялі вечарыну з нагоды выдання паэтычнага зборніка вядомага на Вілейшчыне аўтара **Міколы Кутаса**.

Новы зборнік называецца "Пацеркі зімы". На думку паэта, слова "пацеркі" і ёсць паэзія. Толькі мастацкае слова ў душы творцаў можа зазіхацець пацеркамі, лічыць Мікола Кутас.

На вечарыне паэт расказаў прысутным вучням, як складалася кніга, што натхняла на невыкнасць выказацца вершаваным радком. Зацікавілі вучняў вершы, прысвечаныя знакамітым людзям Вілейшчыны.

Вучань 5 класа **Максім Ярашонак** прачытаў на памяць верш, які апавядаў пра вучобу ў Ільі **Змітрака Бядулі**. На школьным двары ўстаноўлены памятны знак у гонар класіка беларускай літаратуры.

Гучалі радкі Міколы Кутаса і ў гонар **Піліпа Орліка**, які жыў у вёсцы Касута недалёка ад Вілейкі і стаў стваральнікам першай канстытуцыі Украіны ў XVIII стагоддзі. Прачытаў гэты верш вучань 6 класа **Дзмітры Васюта**.

А **Тамаш Зан**, сябра **Адама Міцкевіча**, жыў у Вязыні. Верш, прысвечаны яму, прачытаў шасцікласнік **Павел Байкоў**.

У выкананні Міколы Кутаса гучалі прысвячэнні **Івану Лашутку** – паэту, выпускніку ільянскай школы, **Анатолю Капцюгу** – знакамітаму архітэктару-віляйчаніну, **Анатолю Рогачу** – краязнаўцу, аўтару многіх артыкулаў у кнізе "Памяць. Вілейскі раён".

Паэт Мікола Кутас па прафесіі настаўнік, добра ведае, чым захапляюцца дзеці. Таму загучалі ў актавай зале створаныя ім скарагаворкі. Без запінак іх прачыталі **Ягор Забаронак, Юлія Каржэвіч, Павел Мікуцкі, Ілля Івашанка, Мікалай Чарняк.**

**Марына ЯРАШОНАК,**
**намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца.**

Профессиональная
**РЕСТАВРАЦИЯ ЭМАЛИ ВАНН**
Стаж – 15 лет
**Сантехнические работы**
***(8029) 989-56-67***
***(8029) 553-73-34***
***(80176) 50-10-18***
ИП Кочкин А. А.
УНП 190793011

**ПРОДАЕТСЯ** объект придорожного сервиса
**Кафе "Маринад"**
Трасса Минск- Нарочь (д. Ерхи).
*Возможно перепрофилирование объекта.*
Т. 8 (029) **654-90-44** ИП Селицкая Т.П. УНП 690547499

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы святкуеце Каляды?



**Марына Ганчарова, супрацоўніца МНС:**

– Для працаўнікоў службы выратавання любое свята – гэта, у першую чаргу, дзяжурныя суткі. А ў такія дні часта здараюцца надзвычайныя сітуацыі. Што тычыцца мяне непасрэдна, то ў нашай сям'і склалася шматгадовая традыцыя пячы фігурнае імбірнае пячэнне.



**Ірына Багамолава, бібліятэкарка:**

– У гэтым годзе мае родныя і блізкія працуюць у навагоднюю ноч, таму наступленне Новага года мы будзем святкаваць 7 студзеня, дарыць падарункі, дзякаваць году, што прайшоў. З нецярпеннем чакаю Каляды, спадзяюся, што свята пройдзе ў цёплай абстаноўцы.



**Яўген Якаўлеў, студэнт:**

– Каляды асабліва не адзначаю, так заведзена ў нашай сям'і. Ноччу буду спяваць у хоры ў касцёле, а 25 снежня – адсыпацца, калі ніхто не запросіць у госці.



**Жанна Гадлеўская, настаўніца гімназіі-каледжа мастацтваў:**

– Калі я была класным кіраўніком, мы з вучнямі калядавалі, хадзілі ў дзіцячы дом, а ўвечары варажылі. Цяпер я штогод езджу на некалькі дзён у манастыр, каб адпачыць ад штодзённых праблем і давесці да ладу свой духоўны стан.



**Ірына Абалішына, настаўніца Гарадоцкай школы-сада:**

– Свята мы звычайна праводзім у сямейным коле. На стол ставім салату аліўе, запечаную бульбачка, салодкія прысмакі. У гэты дзень мы расказваем адзін аднаму, як прайшоў год. Але стараемся ўзгадваць толькі добрае.



**Марыя Варабей, у дэкрэтным адпачынку:**

– Каляды пачынаюцца з паходу ў царкву. Затым збіромся за святочным сталом усёй сям'ёй: я, муж, бацькі, дачка Глафіра і сын Нікіфар. Раней заўсёды хадзілі на начную службу, але цяпер малое дзіця, усяго восем месяцаў.



**Вікторыя Гулецкая, навучэнка гімназіі №10:**

– Падрыхтоўка да Калядаў пачынаецца з адвенту. Некалькі разоў на тыдзень я хаджу на службу. А калядную ноч праводжу на начной службе ў касцёле. Раніцай мы абменьваемся падарункамі.

**Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№51 (1182) 22.12.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1218. Падпісана ў друк у 9.00 21.12.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.